Газета творчай інтэлігенцыі Беларусі

# ЛіМ
# Літаратура і мастацтва

ISSN 0024-4686

№ 27 (4776) 11 ліпеня 2014 г.

## Пункцірам

✔ Урачыстасці з нагоды Дня Незалежнасці Рэспублікі Беларусь і 70-годдзя з дня вызвалення ад фашысцкіх захопнікаў адбыліся ў нашай краіне. Выступаючы на парадзе войск Мінскага гарнізона, Прэзідэнт Беларусі Аляксандр Лукашэнка падкрэсліў: «Наша незалежнасць заснавана на заслугах пакалення пераможцаў. Тых, хто, ахвяруючы самым дарагім — сваім жыццём, прынёс на нашу зямлю доўгачаканую свабоду». Дабрабыт насельніцтва, дынамічнае развіццё краіны, умацаванне яе пазіцый як самастойнага суб'екта сусветнай супольнасці з'яўляюцца лепшай памяццю пра гераізм нашых вызваліцеляў, адзначыў Кіраўнік дзяржавы.

✔ Зорка Надзеі Бабкінай будзе адкрыта на Алеі лаўрэатаў спецыяльнай узнагароды Прэзідэнта Беларусі «Праз мастацтва — да міру і ўзаемаразумення» падчас XXIII Міжнароднага фестывалю мастацтваў «Славянскі базар у Віцебску». Цырымонія закладкі зоркі прайшла 10 ліпеня.

✔ Начны паказ спектакля «Макбет» Уільяма Шэкспіра адбудзецца сёння ў межах «Славянскага базару ў Віцебску». Сусветна вядомая трагедыя ў выкананні акцёраў Нацыянальнага акадэмічнага драматычнага тэатра імя Якуба Коласа разгорнецца на тэрыторыі музея-сядзібы І. Л. Рэпіна «Здраўнёва».

✔ Нацыянальны банк Беларусі абвясціў адкрыты рэспубліканскі конкурс дзіцячага малюнка «Дзеці малююць манеты». Тэма конкурсу, які будзе праводзіцца з ліпеня па верасень сярод навучэнцаў устаноў дашкольнай, агульнай сярэдняй і спецыяльнай адукацыі, — «Манета як адзін з сімвалаў дзяржавы». З 8 па 12 верасня журы конкурсу вызначыць 12 лепшых работ, аўтараў якіх чакаюць каштоўныя прызы і падарункі.

✔ Беларуска-французскі тэатральны вечар, які днямі прайшоў у Парыжы, стаў чарговым мерапрыемствам Дзён беларускай культуры ў Францыі. Вечар быў арганізаваны ў культурным цэнтры французскай тэатральнай асацыяцыі *Demain le Printemps* сумесна з пасольствам Беларусі ў Францыі, Беларускай акадэміяй мастацтваў, Рэспубліканскім тэатрам беларускай драматургіі і міжнародным грамадскім аб'яднаннем «Тэатро» (Беларусь). У мерапрыемстве бралі ўдзел французскія студэнты — выпускнікі 9-месячнага беларуска-французскага тэатральнага майстар-класа, які праходзіў у нашай краіне.

✔ Выстаўку «Дзесяць стагоддзяў мастацтва Беларусі» ў Нацыянальным мастацкім музеі з сакавіка ўбачыла каля 24 тысяч наведвальнікаў. З першага дня работы экспазіцыі праведзена 320 экскурсій, а ў кнізе водгукаў пакінута больш як 700 запісаў. Да выстаўкі навуковыя супрацоўнікі музея распрацавалі каталог (папяровая ды электронная версіі) і аўдыягід на трох мовах — рускай, беларускай і англійскай.

✔ Выдатную справу па ўвекавечанні славутых асоб, імёнамі якіх названы нашы вуліцы, пачаў Лунінецкі райвыканкам. Летась мемарыяльная дошка з'явілася на адміністрацыйным будынку жыллёва-камунальнай службы — на доме № 4 па вуліцы сяржанта Клаўдзіі Бажэнавай, якая загінула ў ліпені 1944-га пры вызваленні Лунінца. Днямі на будынку цэнтральнай раённай бальніцы з'явілася мемарыяльная дошка ў гонар Максіма Багдановіча, імя якога носіць вуліца.




*Фота Міхаіла Несцерава*

*Сцэна са спектакля «Мацарціяна». Салістка Грузінскага балета Кацярына Сурмава.*

**Новы тэатральны праект — фестываль «Балетнае лета ў Вялікім» — прайшоў з 29 чэрвеня па 9 ліпеня ў сталіцы Беларусі. Афішу склалі класічныя і сучасныя пастаноўкі з удзелам зорак сусветнага балета, прэм'еры Вялікага тэатра і спектаклі Грузінскага тэатра оперы і балета імя З. Паўліяшвілі.**

*Чытайце на стар. 16* ▶

У Саюзе пісьменнікаў Беларусі

# Добрая навіна!

**Напярэдадні Дня Незалежнасці Прэм'ер-міністр Беларусі Міхаіл Мясніковіч па даручэнні Прэзідэнта Беларусі Аляксандра Лукашэнкі ўручыў дзяржаўныя ўзнагароды заслужаным людзям краіны.**

Сярод тых, хто быў адзначаны за вялікі асабісты ўнёсак у развіццё культуры, мастацтва, — прадстаўнікі Саюза пісьменнікаў Беларусі. Медаль Францыска Скарыны атрымалі творцы Васіль Шырко і Віктар Праўдзін. Падзяка Прэзідэнта ўручана паэту Казіміру Камейшу.

Паводле Прэм'ер-міністра, дзейнасць кожнага з узнагароджаных аднолькава важная, бо ўсе яны працуюць на карысць агульнай справы. «Наша нацыя моцная тады, калі яна адзіная. І ў нас гэта атрымліваецца», — канстатаваў Міхаіл Мясніковіч. — Мы і надалей, выконваючы волю Кіраўніка дзяржавы, урада, будзем рабіць усё, каб падтрымаць і тых, хто працуе ў сферы матэрыяльнай вытворчасці, і тых, хто заняты творчасцю».

Яшчэ адна добрая навіна: днямі ганаровае званне «Заслужаны дзеяч мастацтваў Рэспублікі Беларусь» атрымаў член СПБ, драматург Анатоль Дзялендзік.

**Міра ІЎКОВІЧ**



Фота БелТА

*Міхаіл Мясніковіч уручае медаль Францыска Скарыны Віктару Праўдзіну.*

# Хто выратуе спадчыну?



Фота Івана Ганчарука

**Адкрыццё XX курса Міжнароднай паслядыпломнай летняй школы «Нясвіжская акадэмія» адбылося 7 ліпеня ў Інстытуце культуры Беларусі. Сумесны адукацыйны праект нашай краіны і Рэспублікі Польшча дзейнічае ўжо дзесяць гадоў з мэтай павышэння прафесіяналізму спецыялістаў у галіне ландшафтна-паркавай архітэктуры, аховы і рэстаўрацыі каштоўных будынкаў і помнікаў культуры.**

Гэтым разам галоўнай тэмай курса стала паняцце інтэгральнасці і комплекснасці аб'ектаў гісторыка-культурнай спадчыны. Распрацоўкай навучальнай праграмы і арганізацыяй школы займаліся Інстытут культуры Беларусі і Нацыянальны Інстытут Спадчыны г. Варшава пры падтрымцы Міністэрства культуры Беларусі. Слухачоў «Нясвіжскай акадэміі», прадстаўнікоў Беларусі, Літвы, Украіны, Малдовы і Польшчы, чакае вучоба ў два этапы. Тэарэтыка-практычны будзе праходзіць па 19 ліпеня ў Беларусі, а потым — стажыроўка ў Польшчы з абаронай дыпломных работ і атрыманнем міжнароднага сертыфіката.

Праграма курса заснавана на практыка-арыентаваным падыходзе, што азначае правядзенне не толькі лекцый, але і майстар-класаў, «круглых сталоў», экскурсій па гістарычных мясцінах. Усё распісана літаральна па хвілінах, таму ад навучэнцаў патрабуецца вялікі запас вынослівасці і цярплівасці. На першым этапе слухачам прадстаўляецца магчымасць пазнаёміцца з экспазіцыяй Беларускага дзяржаўнага музея народнай архітэктуры і побыту, з'ездзіць у Замкавы комплекс «Мір» і наведаць музей-запаведнік «Нясвіж». У прафесарска-педагагічным складзе — вядомыя архітэктары, рэстаўратары, археолагі, дызайнеры, прадстаўнікі кіраўніцтва Інстытута культуры Беларусі, Нацыянальнага Інстытута Спадчыны г. Варшава ды іншых дзяржаўных культурных устаноў, дырэктары і супрацоўнікі музеяў, каардынатары праектных філіялаў і бюро.

Ці можна стварыць эфектыўную стратэгію адаптацыі культурнай спадчыны ў сучасным сацыякультурным асяроддзі, даволі імклівым, часта раўнадушным і вельмі зменлівым? Як правільна захоўваць гістарычныя цэнтры гарадоў і цэрквы, а таксама праводзіць якаснае рэстаўрацыйнае праектаванне? Што такое скансэны і навошта яны будуюцца? Спецыялісты не толькі атрымаюць каштоўныя веды, але і наладзяць стасункі з замежнымі калегамі.

Падчас адкрыцця «Нясвіжскай акадэміі» Надзвычайны і Паўнамоцны Пасол Рэспублікі Польшча ў Рэспубліцы Беларусь Лешэк Шарэпка адзначыў, што хутка можа ўзнікнуць беларуска-польская рэстаўрацыйная школа і дзяржавы сумеснымі намаганнямі будуць абараняць сваю спадчыну. Першая і Другая сусветныя войны пакінулі пагібельны след на стане гісторыка-культурных аб'ектаў многіх краін. «Менавіта таму існуе вострая неабходнасць адраджаць тыя помнікі, якія моцна зруйнаваны, і клапаціцца пра тыя, якія захаваліся. Культурныя аб'екты, безумоўна, каштоўныя сваёй духоўнасцю, але дзякуючы ім можна развіваць турызм, падтрымліваючы на высокім узроўні фінансавае становішча краіны», — падсумаваў дыпламат.

**Марыя ВОЙЦІК**

# Да Купалы на паклон

**Цырымонія ўскладання кветак да помніка Песняру і паэтычны мітынг «Палымянае слова паэта» адбыліся 7 ліпеня, у 132-ю гадавіну з дня нараджэння Янкі Купалы, у парку яго імя.**

На пачатку імпрэзы дырэктар Дзяржаўнага літаратурнага музея Янкі Купалы Алена Ляшковіч падкрэсліла, што паэт з'яўляецца адным з сімвалаў Беларусі.

Вядучая імпрэзы, загадчыца аддзела культурна-адукацыйнай работы музея Вольга Пархімовіч, прадставіла публіцы гасцей мерапрыемства: старшыню Мінскага гарадскога аддзялення Саюза пісьменнікаў Беларусі Міхася Пазнякова, дырэктара радыё «Беларусь», паэта Навума Гальпяровіча і маладую паэтэсу Яну Явіч. Кожны з запрошаных прачытаў ля помніка Купалу прысвечаныя Песняру вершы.

Юных наведвальнікаў музея, якія ў гэты дзень таксама прыйшлі да помніка Песняру, М. Пазнякоў заклікаў любіць Беларусь і расці беларусамі, такімі, якім быў Купала.

Паводле Н. Гальпяровіча, Янка Купала — святое імя для кожнага жыхара нашай краіны. На думку Навума Якаўлевіча, дзецям з маленства трэба прывіваць любоў да роднай мовы. «Ад нас залежыць, каб яна не загінула», — падсумаваў паэт.

Я. Явіч прызналася, што творчасць Янкі Купалы са школьных гадоў аказала на яе вялікі ўплыў.

Вольга Пархімовіч правяла з дзецьмі гульню на матэрыяле твора вядомай айчыннай паэтэсы Еўдакіі Лось «Свой Купала». «Купала!» — паўтаралі школьнікі рэфрэн гэтага верша, тым самым сцвярджаючы: творчасць вялікага паэта жыве — у вяках і пакаленнях.

**Арына КРАЙКО**

# Прэзентацыя ў ЗША

Вядомага філакартыста і калекцыянера Уладзіміра Ліхадзедава добра ведаюць чытачы штотыднёвіка "Літаратура і мастацтва", часопіса "Маладосць" ды іншых літаратурна-мастацкіх выданняў. Часта да розных гісторыка-краязнаўчых артыкулаў у якасці ілюстрацый друкуюцца выявы старых паштовак з яго калекцыі. У выдавецкім доме "Звязда" (а раней — у РВУ "Літаратура і Мастацтва") пабачылі свет тры яго кнігі.

З навінак — альбом "Падарожжа ў часе". Літаральна днямі кніга прэзентавана ў Бібліятэцы Кангрэса ЗША. Удзел у такой важкай для беларускай кнігавыдавецкай галіны імпрэзе прыняў Часовы Паверанны па справах Беларусі ў ЗША Павел Шыдлоўскі і сам калекцыянер, аўтар кнігі — лаўрэат Прэміі Прэзідэнта Рэспублікі Беларусь "За духоўнае адраджэнне" Уладзімір Ліхадзедаў.

На сустрэчу са старымі паштоўкамі беларускай тэматыкі прыйшлі прадстаўнікі Дзяржаўнага Дэпартамента ЗША, супрацоўнікі аналітычных цэнтраў, палітолагі і гісторыкі. Было шмат пытанняў да калекцыянера. І пра Беларусь старадаўнюю, і пра сённяшні стан гістарычных помнікаў, шмат якія з іх захаваны і на паштоўках. Уладзімір Ліхадзедаў ужо другі раз прэзентуе свае выданні ў Бібліятэцы Кангрэса ЗША. Упершыню гэта адбылося напрыканцы 2011 года.

**Сяргей ШЫЧКО**

# Санкт-Пецярбург чытае нашых

**Чацвёрты нумар літаратурна-мастацкага часопіса Пятроўскай акадэміі навук «Медный Всадник» у рубрыцы «Мы з табой, Украіна» надрукаваў творы вядомых беларускіх аўтараў: «Тры сястры» Міхася Пазнякова і «Руку дай» Алега Жукава.**




Літаратурна-мастацкі і грамадска-палітычны часопіс «Невский альманах» у рубрыцы «Сяброўства без межаў» змясціў вялікую падборку вершаў Міхася Пазнякова ў перакладзе на рускую мову Анатоля Аўруціна, а таксама творы паэтэсы з Віцебска Алены Крыклівец.

У гэтым жа нумары вядомы расійскі крытык Вячаслаў Люты, намеснік галоўнага рэдактара часопіса «Подъём» (Варонеж), у артыкуле «Птушка з перабітым крылом» грунтоўна разважае пра паэзію рускамоўнага паэта Анатоля Аўруціна. Крытык дае высокую ацэнку творчасці нашага земляка.

**Павел КУЗЬМІЧ**

# Папараць цвіце...

5 — 6 ліпеня ў вёсцы Александрыя Шклоўскага раёна прайшло рэспубліканскае свята «Купалле» («Александрыя збірае сяброў»). Купалле — адно з самых любімых народных свят у беларусаў, а апошнім часам — яшчэ і самае масавае. Як сведчаць афіцыйныя лічбы, гэтым годам Купалле ў Александрыі наведала сто тысяч чалавек!

Сёлетняе свята ў Александрыі, паводле задумы арганізатараў, праходзіла пад дэвізам «Днепр — рака сяброўства!». Здавён Дняпро, нібы сярэбраная стужка, звязвае тры славянскія народы — беларусаў, рускіх і украінцаў. Таму традыцыйна на свята завіталі майстры і творчыя калектывы з Расіі і Украіны.

Адна з галоўных падзей Купалля — Александрыйскі кірмаш, у якім узялі ўдзел айчынныя майстры, а таксама з Ніжагародскай, Калінінградскай, Смаленскай абласцей Расіі, з украінскіх Чарнігава, Чарнаўцоў і Цярнопаля.

На выстаўцы «Залатая саломка» дэманстраваліся вырабы з «сялянскага золата»: цацкі, дэкаратыўныя пано, а таксама прадметы побыту і інтэр'ера. Падчас міні-свята «Глушанскі хутарок» увазе наведвальнікаў быў прадстаўлены багаты асартымент керамічных вырабаў з Бабруйскага, Клімавіцкага, Чавускага, Крычаўскага раёнаў: посуд, сувеніры з гліны, у тым ліку і свістулькі — старадаўні славянскі абярэг.

Арганізатары пляцоўкі «Сялянскі двор», клубныя ўстановы Касцюковіцкага, Слаўгарадскага, Дрыбінскага, Магілёўскага раёнаў, далі магчымасць убачыць майстар-клас па вырабе кошыкаў, сурвэтак, лыжак, пакаштаваць смачных слаўгарадскіх сыроў, набыць знакамітыя валёнкі з Дрыбіншчыны.

Добрым падарункам для ўсіх стаўся канцэрт Расійскага Цэнтра імя Генадзя Заволокіна «Играй, гармонь». У межах свята цэнтр правеў тэлевізійныя здымкі лепшых калектываў вобласці і асобных выканаўцаў — фіналістаў абласнога конкурсу гарманістаў, праведзенага напярэдадні свята.



*Майстры з Цярнопаля (злева направа) Руслан Друк, Руслана Раўлюк, Андрэй Шаблій.*

На другі дзень для гледачоў і гасцей адбыўся тэматычны канцэрт «Купальскі карагод», дзе канцэртныя праграмы прадставілі творчыя калектывы Расіі, Украіны і Магілёўшчыны.

Яшчэ адна старонка Александрыйскага свята перагорнута. Але Александрыя заўжды чакае сяброў.

**Алёна БЕЛАНОЖКА,**
**фота аўтара**

# Нітка караляў

У літаратурнай гасцёўні «Сустрэча» Пружанскай цэнтральнай раённай бібліятэкі адбылося чарговае мерапрыемства з цыкла «Добры вечар, землякі» — бенефіс-імпрэза «Люблю жыццё і ўсе яго праявы», у якой узяла ўдзел паэтэса Ніна Дыдышка.

Прыхільнікам яе творчасці ўжо знаёмыя паэтычныя зборнікі «Думкі з дарогі», «Любви дарующей крыло», «Жаночы след», літаратурныя эсэ «Радасць і смутак кахання Тадэвуша Касцюшкі», «Жанчыны ў жыцці Янкі Купалы».

І вось — новы зборнік «Нітка караляў», які пабачыў свет у Брэсцкім выдавецтве «Альтэрнатыва» і змясціў пад адной вокладкай вершы, дарожныя нататкі, жыццёвыя гісторыі, нарысы, прысвечаныя музам вялікіх людзей. Падчас імпрэзы гучалі шчырыя, пранікнёныя паэтычныя і празаічныя радкі ў выкананні аўтара і супрацоўнікаў кніжніцы. А яшчэ госця падзялілася на старонках зборніка і з прысутнымі на вечарыне сваімі ўражаннямі ад падарожжаў па розных краінах.

Сугучныя творам аўтара былі і музычныя нумары Віктара Лаўрэнава, Марыі Казловіч і Людмілы Алешка. Супрацоўнікі бібліятэкі зрабілі мерапрыемства надзвычай цёплым і ўрачыстым.

**Ніна ШАБУНЯ**

# Праўда з-пад пэндзля

Адкрыццё мастацкай выстаўкі «Святло Перамогі», прымеркаванай да 70-годдзя вызвалення Беларусі ад нямецка-фашысцкіх захопнікаў, адбылося днямі ў сталічным Палацы мастацтва.

Старшыня Беларускага саюза мастакоў Рыгор Сітніца, каменціруючы падзею, падкрэсліў: «Саюз мастакоў ніколі не застаецца ўбаку ад важных гістарычных дат. Сапраўдны мастак не можа зачыніцца ў сваёй майстэрні і маляваць адно абстрактныя вобразы і сімвалы. Ён заўсёды будзе са сваім народам, са сваёй Айчынай. Мы нездарма паказваем тут здабыткі беларускіх творцаў, тое, што захоўваецца ў фондах БСМ, палотны, створаныя ўдзельнікамі Вялікай Айчыннай вайны».

Адзін з прадстаўнікоў творчай суполкі — Фёдар Бараноўскі (1924 — 2000). На выстаўцы прадстаўлены таксама творы Барыса Аракчэева (1926 — 2013), Іосіфа Белановіча (1920 — 1998), Аляксандра Семілетава (1926 — 1990) і іншых творцаў. Р. Сітніца выказаў падзяку студыі ваенных мастакоў, творы ўдзельнікаў якой годна аздобілі экспазіцыю, а таксама яе кіраўніку, заслужанаму дзеячу мастацтваў Мікалаю Апіёку.

Начальнік упраўлення інфармацыі Міністэрства абароны Рэспублікі Беларусь Уладзімір Макараў зазначыў, што беларуская армія застаецца вернай традыцыям высокага мастацтва: за 10 год існавання студыі ваенных мастакоў праведзены дзясяткі выставак яе ўдзельнікаў, якія наведала больш як 10 тысяч чалавек. «Пакуль жывая памяць пра пакаленне і подзвіг пераможцаў у Вялікай Айчыннай, ніякі вораг нам не страшны», — падкрэсліў У. Макараў.

Завіталі на выстаўку і сябры БСМ, якія бралі непасрэдны ўдзел у Вялікай Айчыннай вайне: Мікалай Назарчук, Тарас Паражняк і Андрэй Заспіцкі. Т. Паражняк, удзельнік Сталінградскай бітвы, згадаў трагічныя падзеі 1941-га, калі Беларусь прыняла на сябе першыя разбуральныя ўдары вайны. Тарас Мікалаевіч упэўнены: мастакам сёння неабходна ствараць работы, якія дапамогуць наблізіць да масавага гледача прыгажосць і эстэтычную моц выяўленчага мастацтва.



*Фёдар Бараноўскі «Коштам жыцця». Палатно, алей. 1961 г.*

Усе ўдзельнікі студыі ваенных мастакоў — дзеці вайны. Паводле меркавання яе кіраўніка Мікалая Апіёка, задача студыйцаў палягае ў тым, каб, не скажаючы гістарычных фактаў, захаваць мінулае ў памяці наступных пакаленняў. Ён асабліва адзначыў вялікую працу ў гэтым рэчышчы сябра БСМ, лаўрэата прэміі Міністэрства абароны Рэспублікі Беларусь Святаслава Федарэнкі, сына вядомага мастака-франтавіка Мікалая Федарэнкі.

М. Апіёк заклікаў навучэнцаў і студэнтаў да актыўнага ўдзелу ў конкурсе на лепшыя творы літаратуры і мастацтва, прысвечаныя 70-годдзю вызвалення Беларусі ад нямецка-фашысцкіх захопнікаў ды 70-годдзю Перамогі савецкага народа ў Вялікай Айчыннай вайне і сучасным жыцці Узброеных Сіл. Першы этап гэтага спаборніцтва, аб'яўленага Міністэрствам абароны Рэспублікі Беларусь, завершаны, а другі працягнецца да 1 мая 2015 г.

**Яна ЯВІЧ**

# Забыць немагчыма

Напярэдадні 70-годдзя вызвалення Беларусі ад нямецка-фашысцкіх захопнікаў у Клімавіцкім раённым цэнтры культуры адбылася прэзентацыя новай кнігі Аляксея Кажамякі «Воіны-клімаўчане ў баях за вызваленне Беларусі». Выданне прысвечана памяці землякоў, якія загінулі ў баях на подступах да лініі «Фатэрлянд» (магутнага абарончага збудавання вермахта на тэрыторыі СССР) і ў аперацыі «Баграціён».

Аўтар кнігі — краязнаўца, член Саюза пісьменнікаў Беларусі. У падрыхтоўцы выдання Аляксею Кажамяку дапамагалі галоўны захавальнік фонду Клімавіцкага раённага краязнаўчага музея Наталля Банышэўская, дырэктар раённай бібліятэчнай сеткі Таццяна Даменікан і настаўнік гісторыі Наталля Казлова, якія адкрылі для клімаўчан шматлікія архіўныя дакументы пра воінаў-землякоў. Над мастацкім афармленнем кнігі, падрыхтаванай як дадатак да гісторыка-дакументальнай хронікі «Памяць» Клімавіцкага раёна, працавалі работнікі цэнтральнай раённай бібліятэкі Таццяна Сініцкая і Юліяна Клімянкова.

Падрабязна апісваюцца баі, якія разгарнуліся на подступах да «Фатэрлянда». Толькі за першыя тры месяцы ў Клімавіцкі райваенкамат паступіла 625 паведамленняў пра загінуўшых. Прадстаўлены некаторыя эпізоды баявых дзеянняў частак і злучэнняў падчас аперацыі «Баграціён», распавядаецца пра подзвігі клімаўчан падчас «Мінскага катла».

Пайменна названа каля дзвюх тысяч удзельнікаў баёў за вызваленне Беларусі і месцы, дзе многія засталіся навечна.

**Таццяна ПЯТРОВА**

*Вытокі*

# Ад слова «мара»

Калі б гэтая хата на ўскрайку вёскі Гута Ганцавіцкага раёна магла гаварыць, колькі б распавяла цікавага! Менавіта з яе парога выправіўся ў свой жыццёвы і творчы шлях выбітны беларускі паэт Уладзімір Марук. Потым цягам гадоў сюды, у родную вёску, дзе «крыштальнае дно самых высокіх нябёсаў», а «хаты бацькоўскай акно з дзедавым полем зжылося», ён як на крылах ляцеў адусюль, куды б ні закідваў лёс: са школьных інтэрнатаў, з Магілёва, дзе вучыўся на бібліятэкара, пазней — з Мінска. Студэнтам філфака БДУ, як правіла, прыязджаў не адзін, а заўжды прывозіў з сабою сяброў-пісьменнікаў. Як і потым, калі працаваў на розных пасадах у газетах, часопісах і выдавецтвах. Уладзімір Антонавіч ніколі не пераступіць парог роднай хаты. І ўсё ж нядаўна ён вярнуўся сюды...

З нагоды адкрыцця мемарыяльнай дошкі на хаце паэта, дзе і цяпер жыве яго маці Надзея Уладзіміраўна, тут сабраліся жыхары Гуты, вучні, настаўнікі, бібліятэкары раёна. Адны ведалі Валодзю з маленства, другія прыходзілі на яго выступленні падчас прыезду на радзіму, чыталі і сёння чытаюць ды перачытваюць вершы слыннага земляка.

Ушанаваць памяць Уладзіміра Марука на мемарыяльнай дошцы — ініцыятыва сапраўднага патрыёта Ганцаўшчыны Аляксандра Свірыда. Менавіта яму разам са старшынёй райвыканкама Аляксандрам Саланевічам выпала ганаровае права адкрыць дошку.

У гэты дзень пра Уладзіміра Марука згадвалі старшыня мясцовага сельсавета Ларыса Мышкавец і жыхарка Гуты Ірына Кендыш, яго цётка Вольга Буднік, сястра Вольга і дачка Вераніка. Паэтэса Вольга Шпакевіч прачытала верш, прысвечаны паэту, а Анатоль Зэкаў, распавядаючы пра калегу, поруч з якім працаваў у рэдакцыі часопіса «Полымя», закончыў выступленне сяброўскай эпіграмай:

Ён не разводзіў тары-бары.
Маўклівы — нібы шахматыст.
Бо і Марук — ад слова «мара»,
А не ад слова «мараліст».

І гэта, бадай, самая дакладная характарыстыка Уладзіміра Антонавіча Марука — Паэта і Чалавека.

**Аліна РАЧЫЦКАЯ**

Васіль МАКАРЭВІЧ



Васіль Макарэвіч — аўтар каля двух дзясяткаў паэтычных і празаічных кніг. Ужо нават першыя з іх: «Вогненная камета», «Мерыдыяны і паралелі», «Ліставей», «Вечнае дрэва» і іншыя — засведчылі арыгінальнасць стылю, свежасць і навізну мастацкіх вобразаў, багацце мовы. Тое ж можна сказаць і пра зборнікі дакументальнай прозы «Палын і медуніца», «Зямное сузор'е». В. Макарэвіч — лаўрэат літаратурных прэмій імя Аркадзя Куляшова (1994), «Залаты Купідон» (2013). Юбіляр — 15 ліпеня спаўняецца 75 год — увазе чытачоў прапануе свае новыя вершы.

# Аўтабіяграфічны дыпціх

## Ліпень-1944

*У вёсцы ні хат,*
*Ні смалістых адрын.*
*Адно абсмылелае дымнае голле.*
*Ледзь помню, як фронт*
*Мяне з прыску адрыў*
*І ўстаў я па забарсні*
*У дымным вуголлі.*

*Не бачыў бяроз,*
*Ні зямлі навакол,*
*Хоць ранак цадзіўся з нябёс Ніягарай.*
*Тырчэў на пажарышчы я, быццам кол,*
*І вейкі звісалі брыжамі*
*Нагару.*

*Аблокі ці дым*
*Светла-летняга дня*
*Абклалі мяне не для нейкай забавы.*
*Чарнеў сярод іх я, нібы галаўня,*
*Заціснуўшы белую ўсмешку*
*Зубамі.*

*Туман акрываў*
*Папялішча, як флёр,*
*І поўз, русачубы, паволі пад танкі.*
*Ля гулкіх гармат мінамёт, як суфлёр,*
*Галёкаў, стараўся ім мінай*
*Падтакнуць.*

*Я тую хвіліну*
*Ў душы зберагу*
*З кашуляю першай сваёй саматканай,*
*Калі з папялішча я выграў нагу,*
*Якую вайна на той свет*
*Засмактала.*

*Гырчэў, нібы звер,*
*На прылеску пажар.*
*Зямлю абдавала спякотай і жарам.*
*Лам'ё галавешак з высокіх Стажар*
*Злятала на дол і былое*
*Стажар'е.*

*Хаця і вайна*
*Перастала дыміць*
*І раны старыя, здаецца, аднылі, —*
*Як лазня ні прагла ад сажы адмыць,*
*Ніяк ад густой чарнаты*
*Не адмыла.*

*Я дзякую шчыра*
*Густому дажджу,*
*Што рагі з аблічча змываючы поту,*
*Студзіў абвуглелую ў прыску душу,*
*Ствалы скіраваўшы захмарных*
*Брандспойтаў!*

*Не ведаў насмешак,*
*Не знаў больш абраз.*
*І, пэўна, мне нейкі зявака зайздросціў,*
*Што ў ліўня на дне, як марскі вадалаз,*
*Хадзіў ля кустоў, як сярод*
*Вадаросцяў.*

*Фартуна нідзе*
*Не ляжыць на віду.*
*Яе ведзьмакі на той свет закапалі.*
*Калі я ў рачную заходзіў ваду,*
*Яна ад спякоты уміг*
*Закіпала.*

*Я шчасце, скажу,*
*Не лавіў на жыўца.*
*Прасіў дол адно: пад нагою пружынься!*
*І, дзякаваць Богу, на дрэве жыцця*
*Малым чаранком прыкіпеў*
*І прыжыўся.*

## Ліпень-2014

*Стаяць лясы у дымным парыку.*
*Дня калдыбае фура параконная.*
*Дол парыцца, здаецца, ў парніку.*
*Ледзь дыхае задуха парніковая.*

*Няўжо ў сусвеце мы жывём адны*
*І трызнім толькі боксам і карыдаю?*
*Таму і сталі падкрадацца дні*
*Задухі парніковага перыяду.*

*Хоць далячыні насцеж адчыні,*
*Каб ахалодаў нават корч, як выкапень.*
*І ў летняй, нібы вар, гарачыні*
*Паўдзён сто раз перакіпеў і выкіпеў.*

*Зірні – наўкруг лясны архіпелаг,*
*З пажарнай вышкай, вычасанай занава,*
*Ад спёкі і задухі скрозь сасмаг*
*І, нібы звер, шырока пашчай зявае.*

*Скідаюць хвалі бліскавак луску.*
*Трымцяць стракозы ў пойме*
*дырыжаблямі.*
*Рака нагрэбла пад сябе пяску,*
*Ляжыць на ім і ледзь варушыць жабрамі.*

*Асвер над студняй нізка звіс наўздзіў*
*З вядром кляновым, быццам бы*
*падойнікам.*
*І ў зруб, як глюгу, вочап усадзіў*
*Ды студзіць там, нібыта у лядоўніку.*

*А ў сажалцы б'е вадзяны набат:*
*Са стогнам жабы ў бросневыя рэзгіны*
*З гразі малых зграбаюць жабянят*
*І пад уласны гвалт*
*спраўляюць хрэсьбіны.*

*Па грудзі ў твані і сівы, як лунь,*
*Ды з пісягамі на спіне і знакамі,*
*Вось-вось на лапы ўзнімецца валун*
*І ўголас разам з жабамі заквакае.*

*А дзень ступае ў чаўнаках бахіл.*
*Пад вокрыкі драздовы і пад сойчыны*
*Не сосны, а распяты небасхіл*
*Разцом маланкі наўскасы падсочаны.*

*У сінім небе ветрыкі-вятры*
*Не знаюцца з трывогамі і стрэсамі.*
*Як сена, хмаркі сушацца ўгары,*
*Што рагатухай-раніцай растрэсены.*

*Нібыта балахон манашкі, цень*
*Чарнее, разасланы гожай ліпаю.*
*Ля небакраю, бы ярлык ад цэн,*
*Заранка вокам зіркае ды лыпае.*

*Магчыма, дзесь і ў бліскаўцы слязы,*
*Паверце, повязь маецца прычынная,*
*Што нават да нязначнай драбязы*
*Душой і сэрцам ты навек прычынены.*

Алесь ПІСАРЫК



### ***

*Слова крэпла, дыханне займала.*
*Гэту сілу давала зямля.*
*«Не дабра —*
*Дабрыні ў свеце мала!» —*
*Прамаўляла матуля мая.*

*Доля — доляй!*
*Душа б не драмала!*
*Ты з любоўю і верай жыві!*
*Жорсткі век, усяго яму мала:*
*Слёз і гора —*
*Стаіць на крыві!*

## Пад крыламі родных аблокаў

**Лётчыку-касманаўту Алегу Навіцкаму**

*Адзіны ў нас Ігуменскі абшар,*
*Дзе вёсны шчодра жаўранкаў гукалі.*
*Мы верылі: зямля — блакітны шар,*
*Амаль такі, што ў неба запускалі...*

*Любіць Айчыну — матчын запавет.*
*Адвеку край лагода спавівае.*
*Прагляне промнік — радуецца свет,*
*Хто мае пеўчы голас —*
*Заспявае!*

*Бары ўвабралі горычы вякоў,*
*А не ачэзлі духам!*
*Паглядзіце, —*
*У небе плыні ніў і васількоў,*
*І сонца, як Святая Маці з дзіцем!*

*І на зямлі,*
*І ў млечнай вышыні —*
*Трывога — жыць!*
*У звон трывога звоніць!*
*І ападае лісце цішыні*
*На аркушы паэтавых бяссонніц...*

*У мроях да сузор'яў заплылі...*
*Раскрыць бы тайны,*
*Што пад сургучамі,*
*І радавацца сонцу і зямлі,*
*Глядзець на свет удумнымі вачамі.*

## На схіле дня

**Памяці паэта Міколы Федзюковіча**

***1***
*Ён прадчуваў раптоўны скон*
*І сам сваю нядолю кроіў...*
*Абраннік музы — ля ікон*
*Пісаў — як жыў,*
*Любіў — як мроіў.*

*Падзей зларадныя вятры...*
*Гады галотныя, як гады...*
*Змыралі слынныя сябры,*
*І неставала сэрцу праўды...*
*Хто правасудзіў? — не пытаў,*
*Трываўся ўласных дум і веры,*
*Ён воблік д'ябла растаптаў,*
*Але й гугнявым не паверыў.*

***2***
*Планіда сталася чужой...*
*Памёр — жалобны стол сабралі,*
*І развіталіся з душой —*
*Завеі ў сэрцах абміралі...*

*Ля свечкі чарку налілі*
*Яму — паўнюткую, як вока,*
*Яна журылася, калі*
*Пусцелі іншыя навокал...*

*Падаў руку маладзіку! —*
*Пачулі ўсе — і не здзіўляла,*
*Як жыў сябрук,*
*Як на вяку*
*За ім нядоля кавыляла...*

*Што лёс паслаў — дапіў да дна...*
*Слязу з вачэй змахнула Лета...*
*Калядны сум...*
*На схіле дня*
*Планета страціла Паэта.*

***3***
*Высока ў небе!*
*Не відзён!*
*А голас чуцен! Прывячаю!*
*Не да аплачын!*
*«Красадзён» —*
*Малітва долі і адчаю.*

*Суровым быў агмень радкоў:*
*«Прадажных лірыкаў не ганю,*
*Зямля памірыць, прастакоў,*
*Гаючай пасцілкаю гаю...»*

*Што жыў самотна — не папрок.*
*Не прычакаў людской лагоды,*
*Ён да нябёсаў здзейсніў крок*
*І там застаўся назаўсёды...*

Вікторыя ГОМЗА



Вікторыя нарадзілася ў горадзе Баранавічы. Цяпер вучыцца на 3-м курсе Інстытута журналістыкі БДУ па спецыяльнасці літаратурная работа (творчасць). Пераможца паэтычнага конкурсу БДУ 2013 года ў намінацыі «Да будет всем любовь», а таксама ўдзельніца літаратурнага конкурсу «БрамаМар».

## Ave Eva

*Я хачу быць малой дзяўчынкай,*
*Калі мне будзе пад 33.*
*Збіраць анёлаў і пахнуць водарам*
*Празрыстай, ціхай лясной красы.*

*Хачу мець сэрца безвыпадковае*
*І безбярэжныя валасы,*
*І пацалункі дарыць ліловыя,*
*Расплюшчыць вусны святой ракі.*

*І слухаць танцы, спяваць пралескі,*
*Глытаць аблокі салодкай ваты,*
*І ведаць кроплі на кожным месцы,*
*І бачыць вобразы мамы з татам...*

*Яны там разам, цалуюць рукі.*
*Іх позірк душу мне пільна грэе.*
*Я чую свежасць шчаслівых гукаў.*
*Я частка гэтага... Ave Eva.*

## Пах. Смак. Крык

*Пах адзіноты звыклы, як уздых паветра.*
*Снежнем наступным прасякнуты*
*ён па грамах.*
*Драмы жыццёвыя рэдка каго здзіўляюць.*
*Драмы жыццёвыя будуць абавязкова.*

*Смак адзіноты звыклы, як у роце сліна,*
*Але, бывае, раптам прыходзіць смага*
*І намагаецца волю схапіць у нёба.*
*Колер душы на сёння раскажа неба.*

*Крык адзіноты нічога даўно не кажа,*
*Стрыжань салодкага суму запхнуў у горла.*
*Не задыхаецца, кашаль не душыць —*
*усё добра.*
*Але ці добра са стрыжнем хадзіць у горле?*

## Больш не трэба

*Адгукніся. Гэты гром і сцюжа*
*Сэрцаў слых зусім расчараваў.*
*Лёс гартаў нас, быццам А4,*
*А ні больш. Ён крохкі і глухі.*

*Хілыя ў нас з табой абдымкі,*
*Бо ад часу рукі звар'яцелі.*
*Прыбягалі згусткі нейкіх ценяў.*
*Бачыш? Вось жаночыя калені...*

*Мы з'ямо яшчэ пад тону болю.*
*Усё зап'ём мы рэўнасцю і лютым.*
*Наша месца, ведаеш, не хутар.*
*Гэта дом цагляны, апусцелы.*

*Танчы-танчы, падыду пасля я.*
*Музыку тваю ўбяру і засумую,*
*Быццам смерць цягучую якую,*
*Быццам хілых больш не трэба рук.*

# Яўген МАРТЫНОВІЧ

# Дзіўныя людзі

## *Абразкі, зацемкі, імпрэсіі*

### НЕНАПІСАНЫЯ ВЕРШЫ

Ненапісаныя вершы жывуць пад дахамі дамоў і ў вачах нашых каханых. Яны туляцца адзін да аднаго і чакаюць, калі іх хто-небудзь убачыць.

Ненапісаныя вершы жывуць у дзіцячых малюнках і марах. І чакаюць, калі іх зразумеюць… дарослыя.

Ненапісаныя вершы жывуць на гарышчы ў бабулінай старэнькай хаце. І чакаюць, калі ты прыедзеш па іх.

Ненапісаныя вершы ЖЫВУЦЬ!

### ЛЮДЗІ І СПРЭЧКІ

Людзі спрачаюцца, сварацца. А потым разумеюць недарэчнасць сваіх дзеянняў, просяць прабачэння і зноў мірацца. І абяцаюць ужо ніколі так не рабіць. Але ўсё роўна працягваюць гэтую бясконцую спрэчку: хто правейшы, хто разумнейшы, хто мацнейшы...

Пераможцаў у гэтай спрэчцы няма! І не будзе ніколі. І людзі гэта разумеюць. Але ўсё роўна назапашваюць камяні для новых спрэчак.

### ГІСТОРЫЯ АДНАГО РАССТАННЯ

Яна кожны дзень з дрыжаннем у голасе гаварыла яму:

— Я цябе не заслугоўваю...

Пасля гэтага пяшчотна абдымала. А ён маўчаў.

Але праз некаторы час, троху падумаўшы, адказаў ёй:

— Так, не заслугоўваеш.

І сышоў.

### «СТРАШЭННАЯ ТАЯМНІЦА»

Пішаш употай, каб ніхто не ўбачыў. Нібыта злачынца ці здраднік, якому замала аднаго кахання (і нешта яшчэ шукаеш на баку). Пішаш паміж працай і сям'ёй, паміж абавязкамі і вольным часам: у метро — прозу, у трамваях — паэзію. Пішаш без надзеі, што гэта будзе прачытана кімсьці акрамя цябе (вось ён, спадар Эгаізм). Пішаш, калі зачынены ўсе вокны і форткі. Пішаш, саромеючыся свайго пісання (а што, калі гэта будзе надрукавана?). «А вось насамрэч. А калі гэта будзе надрукавана!». І ты істэрычна камечыш гэтую пісаніну, хаваешся за працай, сям'ёй, абавязкамі, вiном… І клянешся, што болей ужо ніколі…

### ЦЕНІ МІНУЛАГА

Ходзіш нязбітымі шляхамі; ходзіш так, каб не прасачылі, дзе ты жывеш.

Ходзіш так, каб Цені мінулага не зачапілі цябе.

### 10-я ГАДЫ

Праз сто гадоў людзі будуць здзіўляцца нашым 10-м гадам ХХІ стагоддзя (так і будзе запісана ў падручніках па гісторыі!!!).

А навукоўцы будуць аналізаваць гэтыя гады і спрачацца... спрачацца і яшчэ раз спрачацца!

А мы нават і не даведаемся: цікавыя гэта былі гады ці не вельмі?..

### ВЫПАДАК У МЕТРО

У метро дзяўчынка паўтарае назвы прыпынкаў, якія аб'яўляюцца па-беларуску:

— ...Асцярожна, дзверы зачыняюцца, наступная станцыя «Няміга».

Маці дзяўчынкі:

— Прекрати повторять неправильные слова!

І дзяўчынка адразу сціхла. А дакладней, «ПРЕКРАТИЛА».

### СЦЭНАРЫІ

Уявіце сабе: а што, калі б жыццё пражывалася па сцэнарыях розных знакамітых рэжысёраў... Напрыклад, В. Алена (і ўсе б тады балбаталі пра свае сексуальныя комплексы і дзіцячыя траўмы) ці Дж. Джармуша (і ўсе б сядзелі ў кавярнях, палілі цыгарэты з кавай ды намоўквалі), ці К.Таранціна (і ўсе б тады... перастраляліся). Увогуле, вясёлае было б кіно, г. зн. ЖЫЦЦЁ!

### ЧАЛАВЕКІ

1. Вясёлы чалавек

Каб трапна пажартаваць, ён насіў у кішэні нататнік з «нарыхтоўкамі» (туды ён выпісваў усе анекдоты і гумарэскі з газет і часопісаў). Але нешта ў яго не атрымлівалася... Нехта заўсёды апярэджваў яго з «імгненным» жартам.

2. Разумны чалавек

Ён так рАААзумна і рАААзважліва рАААзмаўляў, як быццам яго здымала тэлебачанне.

3. Жалезны чалавек

Я бачу яго амаль кожны дзень. І мне здаецца, што ён мяне таксама пазнае. Ён цягне за сабой нейкую брудную лядоўню ці пліту, якую нехта пакінуў пад пад'ездам. Можа, ён збірае «кевлар», каб даць бой гэтаму свету? Дакладна, ён змагаецца! Таму што ў яго заўсёды на твары новы сіняк ці драпіна. Толькі з кім і з чым? Пакуль ён нічога мне не сказаў. А я і не пытаў у яго пра гэта.

4. Шумны чалавек

Гэты чалавек прыносіць з сабою шмат шуму. Нават калі ён маўчыць, усё роўна ў вушах працягвае звінець гэты шум. Ці яго прадчуванне? Хочацца сказаць яму: прыціхні, задзяўбаў ты ўжо са сваім смецікам... Але ж не дазваляе тактычнасць (ці бесхрыбетнасць). І ён працягвае напаўняць твае вушы, як сметніцу, сваім брудам. Ты вырашаеш набыць навушнікі і паслухаць… што-небудзь паслухаць (толькі б не чуць яго голасу). А пакуль... Ла-ла-ла-а-а-а-а-ла!

5. Пакрыўджаны чалавек

У яго ніколі не бывае добрага настрою! Што там гаварыць, гэты чалавек заўсёды нечым пакрыўджаны: бацькамі, братамі і сёстрамі, сябрамі, настаўнікамі... Усім Светам! Гэты чалавек шукае, на каго (што) б яшчэ пакрыўдзіцца. І знаходзіць: на суседскае піяніна, сабаку, громкую гутарку, бабулек, якія любяць, каб у транспарце менавіта ён саступаў ім месца. Вакол гэтага чалавека так шмат крыўды і крыўдзіцеляў, што ён нават запісвае, каб памятаць, хто і калі яго пакрыўдзіў, у нататнік. Дзіўны чалавек!

### «НАЗУБОК»

Памятаю, як у дзяцінстве, калі настаўніца па літаратуры задавала вывучыць верш, яна прыгаворвала: «І каб так вывучылі, што нават калі б вас разбудзілі пасярод ночы, вы яго расказалі без запінак. Назубок!» І мы так і завучвалі (не ўдумваючыся ў сэнс гэтых вершаў). Я памяняў тры школы, аднак вось гэтыя словы пераносіліся, як нейкая заразная хвароба! І кожны раз я іх чуў ад розных настаўніц. Напэўна, у іх дзяцінстве так і рабілі: прымушалі пасярод ночы расказваць вершы... Тады я злаваўся на сваіх настаўніц па літаратуры з-за гэтых недарэчных патрабаванняў. А цяпер мне нават шкада іх неяк стала...

### ЯК ЛЁГКА БЫЦЬ…

Як лёгка быць самотным паэтам! Нацягнуць швэдар, пад самыя вушы (менавіта каб не расплёскаць уласнае святло) і ісці куды вочы глядзяць (пажадана ў парк, да сваёй любімай лаўкі).

Як цяжка быць самотным паэтам! Бо званне Паэта абавязвае яшчэ і складаць вершы. І вось, паставіўшы да абеду прачнік, а пасля абеду закрэсліўшы яго, ты зноў ідзеш шпацыраваць па месцах свайго бясслаўя.

Як нудна быць самотным паэтам, калі вакол усе весяляцца, калі красавік раздражняе ўсмешкамі і цеплынёй… і нечым яшчэ («ну дзе, дзе гэтая патрэбная метафара?») няўлоўным…

Як лёгка быць самотным паэтам, калі вакол так шмат самотных паэтак!

### ПОМНІКІ

Якое глупства рабіць сваім дзеяннямі ўчынкам помнікі! Рабіць іх з бронзы, срэбра, паперы ці іншага матэрыялу: «...Каб засталося нешта пасля цябе, каб людзі прыносілі кветкі (а можа нават і плакалі)».

А птушкі сядзелі на плячах тваёй СЛАВЫ і смяяліся: «Вось, хтосьці зноў паставіў помнік. Дзівакі! Навошта, калі вакол так шмат дрэў?»

### ПАНЯДЗЕЛКІ

Панядзелак забівае ініцыятыву! Гэткі маленькі кілер! А дакладней — паляўнічы, якому няма ніякай справы да тваіх жаданняў, памкненняў, нейкіх светлых пачуццяў... Трэба ўмець уварочвацца ад яго куль, інакш ёсць шанц трапіць у «ШЭРУЮ БУДЗЁННАСЦЬ»!

### КАЛІ ТЫ НЕ КАХАЕШ

Калі ты не кахаеш, навошта запамінаць і выдумляць словы?

Калі ты не кахаеш, навошта запамінаць карункі на тваім шаліку і колер тваіх пальчаткак?

Калі ты не кахаеш, навошта прыходзіць на 23 хвіліны раней за цябе і дадумваць за цябе прычыны твайго спазнення?

Калі ты не кахаеш, навошта тады лічыць ліхтары і прыступкі да твайго дому?

Калі ты не кахаеш, адкажы мне: навошта тады ўсё гэта?

## НАТАТКІ ПРА ШЧАСЦЕ

### МАЕ АНЁЛЫ

Стараюся не прыносіць дадому негатыўныя эмоцыі, але нешта ўсё роўна праскоквае (на адзежы, у валасах, на языку). Аднак увесь гэты бруд аблятае канчаткова, калі я бачу ўсмешкі маіх анёлаў.

### ДАЧКА

— Ну, да каго падобна Ганульа? — пытае ў нас маці.

Жонка, усміхаючыся, адказвае:

— Яна яшчэ выбірае...

### YELLOW SUBMARINE

Першыя месяцы пасля нараджэння дачкі падобны да жыцця ў субмарыне. «Баявыя» вылазкі ў краму, на працу, у паліклініку суправаджаюцца адной толькі думкай: хутчэй-хутчэй-хутчэй дадому, да маіх анёлаў! Ты больш не належыш сабе. Але гэта такая прыемная залежнасць!

### МАЛЕНЬКІ ТРЫПЦІХ

Сакавік даруе... І адорвае ўсіх безнадзейна хворых на жыццё першай, пакуль яшчэ няўпэўненай, цеплынёй.

Красавік спатольвае прагу бярозавікам і дае надзею.

Травень адчыняе дзверы да навальніц, паху лета і жыцця.

### МОЙ 1989-ы

У маім дзяцінстве людзі былі падобны да зорак кіно ці эстрады. Сусед з 6-га паверха быў падобны да Мулявіна (такія ж густыя вусы з бакенбардамі і сакратаўскі лоб, а таксама джынсы-клёш). Тады шмат хто быў падобны да «Песняроў»! Сябар дзядулі быў падобны да Армена Джыгарханяна (такі ж хрыплы голас і мужны профіль)... Лепшая маміна сяброўка была падобна да Алісы Фрэйндліх (амаль усім, нават рухамі). Тады, у 1989 годзе, амаль усе былі падобныя да кагосьці...

### ВОДАР ХЛЕБА

Аднойчы, калі я ехаў з працы, да мяне падсеў дзядок. І ад яго так смачна пахла цёплым хлебам, што на душы стала



прыемна-прыемна. Напэўна, так у даўнія часы пахлі хлебаробы, людзі працы... Не ведаю, але мне падаецца, што менавіта так.

### УТУЛЬНЫЯ КНІГІ

Бываюць такія «ўтульныя» кнігі, што не хочацца з імі развітвацца, нават калі дойдзеш да апошняй старонкі. Да іх можна вяртацца і вяртацца, а яны ўсё не надакучваюць. На жаль, апошнія такія кнігі былі напісаны далёка да майго нараджэння.

### АЛЕСЬ ПІСЬМЯНКОЎ

Набыў кнігу А. Пісьмянкова «Не знікай». Пакуль ехаў дамоў, так хацелася пагартаць яе. Але ўтрымаўся. Толькі калі прыйшоў дадому і памыў рукі, толькі тады я пачаў чытаць. Для такіх вершаў патрэбны чыстыя рукі.

### МАРЫ

Нашы мары перашэптваюцца недзе ў маладым красавіцкім паветры.

### ВЫБАР

Мы самі сабе замкі і вежы, палацы і храмы.

Мы самі вырашаем, кім быць — храмам ці крамай.

### ПЕРАЕЗД

Пасля летняга адпачынку:

— А дзе спадар N.? Чаму яго няма на працоўным месцы?

— Ён прасіў перадаць, што перасяліўся ў ліпень. І казаў, каб больш яго не турбавалі...

## «Я ПРОСТА ХАЧУ ЦЯБЕ ЎБАЧЫЦЬ…»

*Імпрэсія*

Восень — цудоўная пара, з непаўторным даўкім водарам спарахнелага залатога лісця і летніх дзён. Аднак за акном ужо не было бачна гэтага «золата».

Змяркалася, надвор'е было зусім непрыязным: упарта церусіў прахалодны дождж, які прымушаў нават самых моцных гараджан капітуляваць перад сезонnай непагаддзю; ён (дождж) вымушаў іх хавацца ў цёплых пыльных кватэрах і выдумляць сабе самыя розныя карысныя заняткі.

Вуліцы выглядалі акалелымі і прастуджанымі. А што ўжо гаварыць пра людзей простых?

***

Упершыню ён убачыў яе ў сваім універсітэце. Яна вучылася на другім курсе, а ён быў ужо на апошнім. Высветліць нумар групы і яе імя ды прозвішча не выклікала цяжкасцей (астатняе ён знайшоў у сацыяльных сетках). Сабраўшыся з думкамі, праз тыдзень ён напісаў ліст, на які яна вельмі хутка адказала…

…І вось гэткая недарэчная сустрэча! Ён кляў сябе за гэты дзень! І, як на злосць, «вярнуліся» ўсе словы, якія ён хацеў ёй сказаць. Мабыць, і не надта арыгінальныя, але ЯГО словы, шчырыя словы. А потым — слухаць яе. Пачуць пра яе любімыя кнігі, фільмы… Ды нават і не гэта! Як жа банальна, недарэчна: кнігі, фільмы, музыка! Яму хацелася проста пачуць яе голас… Адчуць яго цеплыню. Астатняе ўжо не было істотным.

# Каштоўнасць вяртання




*Быкаў, В. Ліквідацыя. Без цэнзуры / В. Быкаў; падрыхт. тэксту, пасляслоўе, каментарыі С. Шапрана. — Мінск: МЕДЫЯЛ, 2014. — 368 с.: [16] с. іл.*

Дзве ўражальныя падзеі падарыла чытачу мінскае выдавецтва «МЕДЫЯЛ». Дзве кнігі і сёння, праз дзесяцігоддзі ад першай сустрэчы аповесцей з чытачамі, узнаўляюць сапраўдныя, бесцэнзурныя тэксты галоўных быкаўскіх твораў: «Мёртвым не баліць» і «Ліквідацыя» (добра вядомая аповесць «Сотнікаў»). Не выпадковая і назва ў апошняга са згаданых выданняў: «Ліквідацыя. Без цэнзуры». Пад адной вокладкай — арыгінальны твор, тэкст, у які вернута 100 купюр («Мёртвым не баліць» выйшла з вяртаннем 200(!) купюр) і «Біблейскі сюжэт». Пасляслоўе да аповесці «Ліквідацыя», а таксама падрабязныя каментарыі да яе зробленыя даследчыкам Сяргеем Шапранам. Навуковая рэдакцыя належыць доктару філалагічных навук Міхасю Тычыну. Непадцэнзурны варыянт аповесці быў адшуканы малодшым сынам пісьменніка Васілём Васільевічам Быкавым у Гродне. Чытаем ва ўступным слове: «Больш за тое, на сённяшні дзень вядомы тры рэдакцыі аповесці: дзве ранніх, чарнавая і чыставая, пад назвай «Ліквідацыя», і пазнейшая, пад назвай «Сотнікаў», — са мноствам купюр і перапісанымі эпізодамі».

Што значыў гэты твор для Васіля Быкава? Між іншым, ягодзясятая па ліку аповесць... Так, яна не носіць аўтабіяграфічны характар. Пісьменнік-франтавік узяўся за распрацоўку партызанскай тэмы. А «партызанка» ўжо моцна набывала свае аблічча ў беларускай мастацкай прозе. Выходзілі раманы і аповесці, пракладвалі дарогу да чытача эпапеі. Мо таму на абмеркаванні аповесці ў «Полымі» Васілю Быкаву і выказваліся заўвагі падобнага кшталту: «Не ўсё ўдалося ў спецыфіцы нашых беларускіх партызанаў...» (Павел Кавалёў); «Праясніць фон. Прыбавіць заслугі партызан. Прыбавіць партызанскія стрэлы...» (Іван Пташнікаў).

Аповесць спярша была надрукавана ў «Новом мире», у пятым нумары за 1970 год. Назву «Сотнікаў» даў галоўны рэдактар Аляксандр Трыфанавіч Твардоўскі. Хаця ёсць і некаторыя сумненні. Твор друкаваўся ўжо пасля сыходу Твардоўскага з часопіса. Першым намеснікам галоўрэда быў прызначаны Алег Смірноў. Адна з яго заўваг, згодна з дакументальнымі сведчаннямі, — даць нейтральную назву. А ў «Полымі» «Сотнікаў» пабачыў свет толькі ў адзінаццатым нумары. У жніўні яшчэ ішло абмеркаванне.

Аповесць выклікала бурную хвалю крытычных водгукаў. З'явіўся і артыкул у «ЛіМе». Аўтарам яго быў тагачасны галоўны рэдактар Леанід Прокша. І адбылося гэта за два месяцы да публікацыі «Сотнікава» ў «Полымі». «...Мы ўжо мала верым у тое, што Рыбак «вылезе з дзярма». Ён выклікае ў нас расчараванне і агіду. Але былі, на жаль, і такія. Нельга скінуць гэтага з рахунку. Былі, бясспрэчна. І ведаць аб іх трэба, але дзеля таго, каб яны не былі. У гэтым каштоўнасць аповесці...» І далей: «Сотнікаў» — гэта крок наперад пісьменніка Васіля Быкава ў мастацкім даследаванні мінулай вайны». Па-рознаму паставіліся да гэтай у цэлым станоўчай публікацыі. Па рознаму — у кіраўніцкіх колах. А чытач быў рады, што пра Быкава «было доброе слова»... З аповесцю «Сотнікаў» («Ліквідацыя») прыйшоў новы час у асэнсаванні творчасці Васіля Уладзіміравіча Быкава. Ужо большасці чытачоў, крытыкаў стала зразумелым, што свядомасць сумленнага грамадства можа рэагаваць толькі на сапраўднае. Магістральная лінія асэнсавання Быкавым паводзін чалавека на вайне стала вядомай мільёнам людзей у Беларусі і Расіі, на ўсёй савецкай прасторы, у Еўропе і свеце. Гераізм і мужнасць любой цаной — гэта не зусім гераізм, а хутчэй следаванне абставінам. Іншая справа, што сумленны і маральныя паводзіны і ёсць вышыня гераізму, мужнасці ў самім укладзе жыцця.

Васіля Быкава вінавацілі за «рэмаркізм» ды іншыя грахі, а між тым сілай мастацкага асэнсавання паводзін чалавека ў экстрэмальнай сітуацыі пісьменнік даводзіў праўду жыцця, імкнуўся знайсці тыя кропкі судакранання ідэалу і рэалій, што дазваляюць чалавеку заставацца чалавекам.

Сяргей Шапран робіць вялікую працу, паказваючы ўсе акалічнасці шляху аповесці В. Быкава да чытача, усю шматграннасць яго мастакоўскага веравызнання. Пасляслоўе да публікацыі аповесці ў непадцэнзурным выглядзе чытаецца як уражальны гісторыка-літаратурны дэтэктыў. І пры гэтым аўтару тэксту цалкам давяраеш ужо таму, што найболей у «Біблейскім сюжэце» «гавораць» дакументы, публікацыі, эпісталярныя матэрыялы. Даследчык стварае атмасферу таго часу, калі ў друку з'явілася аповесць, паказвае ў звязку з ёю характары і партрэты многіх пісьменнікаў, літаратурных крытыкаў, партыйных чыноўнікаў.

Знаёмства з непадцэнзурнай «Ліквідацыяй» (як і з непадцэнзурным тэкстам аповесці «Мёртвым не баліць») сведчыць: і сёння гісторыя беларускай літаратуры, калі яна датычыць пагранічных, вострых, надзвычай актуальных тэм, цікавіць і прыцягвае ўвагу.

**Сяргей ЗАЛАМАЙ**

*Паэтычны партрэт*

# Вялікія дробязі

**Чым вылучаюцца вершы Васіля Макарэвіча? У першую чаргу — вялікай увагай да дробязей. Гэта адметная рыса, неабходны складнік паэзіі, выявілася яшчэ ў першай публікацыі паэта ў часопісе «Маладосць».**

Тады ж В. Макарэвіч прадэманстраваў уменне быць не толькі лірыкам, але ў пэўнай ступені і публіцыстам. Часта яго радкі нараджаліся з мінуўшчыны паэта, у іх адлюстроўвалася жыццё пакалення, чыё дзяцінства прыпала на гады вайны.

Характэрная ў гэтых адносінах беназоўная балада пра аэрадром і лётчыкаў. У творы аповед вядзецца ад імя хлапчука, які са сваімі аднагодкамі вазіў на аэрадром дровы для кастроў, каб пілоты маглі пагрэцца ў час адпачынку. Там ён пасябраваў з лётчыкам-цёзкам, веселуном-пракудам, які добра іграў на гітары. І аднойчы ў марозны дзень «звяна вядучы / сказаў: — Твой цёзка больш не прыляціць, / сказаў і ўбок пабрыў, як невідушчы». Трагізм падкрэслівае адна мастацкая дэталь: «А ля палаткі — о, злітуйся, Бог! / — са струнамі цяжкімі заінелымі / гітара, як сама туга і боль, / на ветры і рыдала, і звінела». Заключная страфа робіць глыбокае ўражанне на чытачоў. Яна сама гучыць як апошні акорд жыцця.

Не забываў паэт і нядаўнюю на той час пасляваенную бясхлебіцу, і тое, як маці хадзіла далёка ў раён, адкуль прыносіла бохан хлеба. В. Макарэвіч адной страфой вымалёўвае ўсю карціну: «Трыццаць вёрст і ў чарзе паўвярсты маці йшла да прылаўка». Не менш пакутнай была і дарога дадому: «Супынялася сотню мо раз / і развязвала посцілку. / Слёзы стукалі, быццам град, / па тым бохане з подскакам». Герой верша, малы хлапчук, прызнаецца: «Хлеб кусалі, і дужа нам ён / здаваўся салёным». Вінавацілі ў гэтым пекараў. Праўда прыйшла з гадамі: «І цяпер, калі кожны ўзрос, / апякла нас здагадка болем: / не ад солі, ад матчыных слёз / быў салёны той бохан».

У паэта маецца неадольная патрэба ўспамінаць, спыняць увагу на тых момантах, сведкам якіх быў ён сам. Хто не помніць запуск першых спадарожнікаў зямлі, а пасля і палёты чалавека ў космас? І хто з паэтаў не адгукаўся на гэтыя падзеі? Не прайшоў міма іх і В. Макарэвіч. «Пяскі… а за пяскамі, / дзе выган зелянее, / у небе запускалі мы у дзяцінстве змея». Яго, як вядома, вялі і трымалі на нітцы. Паэт, які надзяляе нязначную, здавалася б, дробязь надзвычайнай значнасцю, «хапаецца» гэтым разам за нітку: «Мы ўжо тады трымалі па нітцы з небам сувязь». Гэты вобраз адразу западае ў памяць. Яна тоненькая і ценькая — кужэльная нітка, спрадзеная матуляй. Але дзякуючы ёй ужо ў дзяцінстве мы — паэт і чытачы — «трымалі з небам сувязь». «І праз туманаў космы, / метэарытаў дождж / урэзалася ў космас / ракета, нібы нож». Што тут можна дадаць? Хіба паўтарыць услед за В.Макарэвічам: «А ў небе дыму нітка, як успамін пра змея».

Пасля сканчэння сярэдняй школы Васіль Макарэвіч са сваімі аднавяскоўцамі-аднагодкамі пабываў у Архангельскай вобласці на лесапрацоўках. Натуральна, паэт звяртаецца і да гэтай тэмы. І застаецца верны свайму прынцыпу: ператвараючы дробязь у яркую мастацкую дэталь, узнаўляе душэўны стан сваіх герояў.

Нягледзячы на прыдзіркі крытыкі, часам неабгрунтаваныя, малады аўтар вёў пошукі, эксперыментаваў. Дзякуючы гэтай упартасці яго творчы набытак станавіўся багацейшым не толькі на залацінкі, але часам і на «самародкі», накшталт гэтай страфы, прысвечанай каханай: «Я гатоў воблік твой у высокіх нябёсах да зморы / аблачынкаю летняй ад рання да рання гайдаць. / А калі нават станеш ты Каспійскім ці Чорным морам, / я Дняпром а ці Волгай буду вечна ў цябе ўпадаць».

Натуральна, аўтар не хацеў адстаць ад свайго часу, імкнуўся ісці з ім упоравень, ён прагнуў навізны і адкрыццяў, паглыблення дасягненняў, зробленых папярэднікамі. «У лясной старане, дзе шалее маліна з ажынай, / маладога мяне на паўночнай рацэ ажаніў. / Маладой на пасаг за сталом даравала сябрына / медзвядзёў у лясах, пух куніц, верасы бараві...» Паэтычная натура В. Макарэвіча патрабавала новай формы выказвання, новых фарбаў і колераў, метафарымаланкі і вобраза-бліскаўкі.

Паэт увесь час звяртаецца да сельскай тэмы, але, навучаючыся ва ўніверсітэце і жывучы ў горадзе, пачынае ўводзіць у свае вершы «гарадскі антураж». У творах становіцца болей халоднай інтэлектуальнасці, хоць ва ўсім гэтым і ўгадваюцца вясковыя карані. Так, напрыклад, аўтар паказвае гарадскую вуліцу: «Пад шум шырокі, манатонны / лісты, гарачыні, вады / ляцяць машыны, матаролеры, / грымяць па бруку абады». Урэшце гарадская мітусня перарастае ў вавілонскае стаўпатварэнне: «І пачынае ў бляску вогненным зямля / перад вачмі кружыць. / Ляцяць дамы з садамі, з вокнамі / і з агаропкай гаражы».

Ёсць у паэзіі В. Макарэвіча яшчэ адна адметная рыса: ён робіць канкрэтнымі і адчувальнымі абстрактныя паняцці. «Нас калыхалі, а за хатай прэлі / у папараці парнай паралелі. / Зарыўшыся у душныя туманы, / ляжалі, як жардзё, мерыдыяны». «Укрытыя бульбоўнікам і бобам, / не меней дзесяці разоў на дні / яны трашчалі ніткамі пад бомбамі / і курчыліся, тонкія, ў агні».

Закранае Васіль Макарэвіч і тэму паэзіі, дзеліцца з чытачамі тым, што яго хвалявала і непакоіла. Часам ён раскрывае сакрэты сваёй творчасці: «Сам жывеш, нібы жыта жнеш, / утыркаешся ў дзень, як вілы. / Вось таму кожны новы верш / і бывае парой, як вывіх». Паэт прызнаваўся, гаворачы пра верш: «Ён баліць мне, баліць, баліць, / непадстрыжаны і непаголены, / калі вуліцай тлумнай бяжыць, / аж мільгаюць смуглыя голені». Часам прызнанне перарастае ў глыбокі роздум над тым, чым для аўтара з'яўляецца творчы акт: «Гляджу на росы у густым лісці / цераз слязы напрошаную шыбіну, / як быццам праз мінуту узысці / патрэбна мне на эшафот ці шыбельню». Сказана, безумоўна, смела, але без самалюбавання і таннага пазёрства.

Калі ж размова заходзіць пра цёмныя бакі жыцця, аўтар карыстаецца гумарам, сарказмам і гратэскам, — мастацкімі сродкамі, якія даюць магчымасць выказваць сваё абурэнне і непрынцце вычварных з'яў.

Маюцца ў творчым набытку Васіля Макарэвіча і паэмы, кожная з якіх — своеасаблівае люстра пэўнага часу. Самай удалай можна лічыць паэму «Мацярык маленства». Пра што гаворка, няцяжка здагадацца. Узнаўляючы ў памяці дні дзяцінства, паэт разгортвае перад намі панараму ваеннага і пасляваеннага жыцця вёскі ды трагічны лёс яе насельнікаў: карнікі расстралялі вяскоўцаў за знойдзеныя ў дзеда Нупрэя вінтоўкі. І зноў падзеі чытач успрымае праз свядомасць малога хлопчыка: «…Як градам па чарпіцы, / як палкай у возе па спіцах — / з выгану: — Тра-та-та!.. / І — цішыня. Немата». У гэтых радках страшная падзея быццам бы аддалена, мы не з'яўляемся яе сведкамі, аднак пазней паэт дадае больш змрочныя, жудасныя фарбы: «Так, як у непагадзь возера, тым ачмурэлым днём магіла да ночы позняй хадзіла ўся хадуном».

Нялёгкім было вясковае жыццё і пасля вызвалення. Гаспадарка легла на плечы ўдоў, падлеткаў і двух-трох інвалідаў, што вярнуліся з вайны. І ўсё адно паэт звяртаецца да гумару, нягледзячы на драматызм сітуацый, якія падаюцца ў паэме, пачуццё аптымізму ўсё ж дамінуе.

Падсумоўваючы сказанае пра творчасць Васіля Макарэвіча, яшчэ раз зазначым, што паэт імкнецца трымаць руку на пульсе часу, адгукацца на значныя падзеі, што адбываюцца вакол яго і ў свеце, але пры гэтым застаецца ўважлівым да дробязей, на якіх — і гэта бачна ў яго вершах — трымаецца свет.

**Таццяна СЯЛЮК**

# Трэсачкі на беларускіх хвалях




**Калі першую частку прыгод Пранціша Вырвіча, шляхціца герба «Гіпацэнтаўр», галоўнага героя трылогіі Людмілы Рублеўскай, увесь час карцела параўноўваць з гістарычнымі творамі Уладзіміра Караткевіча, то другая наводзіць на думкі пра Аляксандра Дзюма.**

Больш прыгод, якія ўкладваюцца ў рытм сапраўды шалёны, больш куртуазнасці ды рызыкі і меней — у параўнанні з першай часткай — самотных разваг пра Беларусь — вось асноўныя рысы кнігі «Авантуры студыёзуса Вырвіча», якая выйшла (хочацца дадаць «нарэшце») сёлета ў «Выдавецкім доме "Звязда"». Зрэшты, зусім пазбавіцца ад узрушана-патрыятычных нотак пісьменніца не змагла, ды, здаецца, і не збіралася. Мэта трылогіі — паказаць, як пакутаваў беларускі народ (прычым, і сяляне, і шляхта, і мяшчанства), як змагаўся за лепшую долю. Сюды ж натуральным чынам далучаецца экскурс у XVIII стагоддзе. І да ўсяго — ярка вымаляваныя, жывыя героі: легкадумны па маладосці Вырвіч, суровы Лёднік, незямная Саламея, машына-забойца Ватман і інш., так што чытач абавязкова знойдзе сярод іх любімага, з якім і будзе сябе ідэнтыфікаваць (калі ўлічыць, што авантурныя жанры перадусім разлічаныя на падлеткавую аўдыторыю, гэта становіцца тым больш значным).

Чаму ж узнікаюць думкі пра Аляксандра Дзюма? Відаць, галоўны чыннік тут — лёгкасць: у інтанацыі, у сюжэтных паваротах, у тым, як вырашаюцца праблемы герояў, і нават у саміх героях — іх словах, учынках і эвалюцыі ці яе адсутнасці. Пранціша Вырвіча, апошняга нашчадка збяднелага роду шляхціцаў, мы пакінулі бойкім, запальчывым, з абвостраным пачуццём уласнае годнасці (нават перабольшаным, што ўласціва яго сацыяльнаму становішчу). Што адбываецца з ім у другой часткі трылогіі? Ці вучыцца ён на сваіх памылках? Здаецца, пачаў крыху больш разважаць, хоць падзеі дзявятага раздзела даюць падставы адмовіць яму і ў такога роду развіцці. Адным словам, які ты быў, такім ты і застаўся... Адзіная змена — гэта моцнае сяброўства, якое завязалася паміж ім і яго былым слугою, а цяпер прафесарам Віленскага ўніверсітэта Баўтрамеем Лёднікам. Праўда, у адзін цудоўны момант Пранціш усведамляе, што ў магнацкіх інтрыгах, на хвалях вялікіх дзяржаўных спраў, ён, шляхціц, і меншыя людзі — усяго толькі трэсачкі. Зрэшты, нават гэтае «адкрыццё» не замінае яму напрыканцы кінуцца з шабляй у бойку. Прычым, са словамі, што біцца ён будзе не за кагосьці з магнатаў (а такія ўзброеныя сутычкі на вуліцах горада былі справай звычайнай), але «за Беларусь». Разумеючы, што гэта абавязковы жанравы пафас, а таксама пэўная аўтарская звычка, усё ж не магу не запытацца: а пры чым тут Беларусь?

Баўтрамей Лёднік, як вы ўжо ведаеце, стаў выкладчыкам, ды яшчэ якім! Падазраю, што ён любімы герой самой Людмілы Рублеўскай і большасці чытачоў; што ўжо хавацца, мой таксама. З Лёднікам у другой часткі трылогіі таксама пачынаюць адбывацца дзіўныя рэчы. Напрыклад, ён выяўляе нечаканую сентыментальнасць. А потым увогуле высвятляецца, што не такі ўжо ён і «лёднік». Навошта пісьменніца гэта зрабіла? Варыянты два: дзеля сюжэта (каб чытач адклаў кнігу і сказаў «нічога сабе!») або дзеля дамалёўкі, дапаўнення вобраза героя. Калі справядлівы першы варыянт, гэта зніжае вартасць самога твора (пры тым, што ў сваім жанры ён выглядае бездакорна). Калі другі, таксама ўзнікаюць пэўныя агаворкі. Напрыклад, такое пытанне: а ці гэтыя новыя рысы сапраўды дапаўняюць вобраз Лёдніка, а не разбураюць яго?

Яшчэ пару слоў пра названага героя. Людміла Рублеўская зрабіла яго не проста выбітным, а супергероем, спалучыўшы вялікі розум, звышмагчымасці, знешнюю халоднасць і дасканалыя баявыя здольнасці. Як бонус — да Лёдніка як мухі ліпнуць кабеты. Урэшце, гэта пачынае раздражняць, бо нават пры немінучай долі ўмоўнасці, якую прымае ўсякі чытач мастацкага твора, такое спалучэнне выглядае занадта неверагодным. Так і хочацца выкрыць у Лёдніку хоць якую загану (прыгоды мінулага не лічацца). З іншага боку, аўтар дасягнуў таго, што Лёднік стаў гэткім Мідасам: з чым бы ён ні судакрануўся, усё яму пасуе, усё яго ўпрыгожвае.

Жаночыя вобразы ў «Авантурах студыёзуса Вырвіча» яўна разведзеныя па полюсах: хатняя жанчына (Саламея Лёднік, Саклета) і жанчына «драпежная» (Паланэя Багінская, лэдзі Кларэнс). Але ёсць і паўтоны, якія дазваляюць гераіням выйсці за межы, намаляваныя жанрам: Саламея пры небяспецы выпускае кіпцюры, а Паланэя выяўляе жывое сэрца.

На завяршэнне размовы пра герояў згадаем яшчэ некалькіх персанажаў, якія маюць вялікае значэнне — прытым не толькі сюжэтнае. Гэта Гервасій Агалінскі і Ёханэс Вайда. Апошні — персанаж надзвычай трагічны, калі добра прыгледзецца. Некалі рамантык, які прагнуў вялікіх ведаў, асветы, служэння высокай мэце, ён стаў самым звычайным буржуа, нягледзячы нават на асаблівасці доктарскай прафесіі. Ён не мае сілы, а галоўнае — жадання, супрацьстаяць злу. «А я — маленькі чалавек. Магу кроў пусціць, магу клізму паставіць. Што я — супраць чумы?» Вядома, чума маецца на ўвазе метафарычная (хоць у кнізе яна самая сапраўдная). Яна ўвасабляе страх і безабароннасць чалавека перад мацнейшым, тут — айцом Габрыелюсам. Добра ўладкаваўшыся, Ёханэс мае пакорлівую жонку, бялявых дзетак і багаты стол, у той час як іншыя мруць ад чумы.

Гервасій Агалінскі сам па сабе вялікай каштоўнасці не ўяўляе. Магнат, храбры выпівоха, пасвойму высакародны. У нечым нават паэт. Але такіх — шмат. Вобраз набірае глыбіню, калі яго паставіць побач з Лёднікам. Сышліся вада і полымя, агонь і лёд. Праз іх барацьбу выяўляецца найвялікшая барацьба чалавека — бясконцае ваганне паміж «рацыё» і эмоцыяй. Нават у знешнасці іх адлюстравана супрацьстаянне: руды, блакітнавокі Агалінскі — і цемнавокі, чарнявы Лёднік.

І ўсё ж, як і належыць прыгодніцкаму жанру, персанажы працуюць не на выяўленне ўнутранага свету чалавека, а на сюжэт. Які Людміла Рублеўская весці ўмее. Сямнаццаць раздзелаў (кожны з іх адмыслова закальцаваны) вядуць нас ад завязкі да адкрытага эпілога, пры гэтым кульмінацыя прыходзіцца на дзявяты і дзясяты раздзелы (якая матэматычная выверанасць!). І раздзел дзявяты — «Пранціш Вырвіч і цмок» — гэта маленькі шэдэўр у вялікай канструкцыі рамана. Ён адзін змяшчае больш нацыянальнай трагедыі і ментальнасці (пры тым, што падзеі адбываюцца ўжо на польскай тэрыторыі), чым увесь раман. Дзясяты раздзел — кульмінацыя ўжо не ў кантэксце «беларускасці», але шырэй — у сэнсе чалавечай прыроды, выбару паміж светлым і цёмным бокам, паміж эга і сябрамі, увогуле — «паміж». Дзеля гэтых двух раздзелаў можна дараваць схематычнасць і стылістычныя недакладнасці (вельмі рэдкія, аднак усё ж такі), якія трапляюцца цягам рамана. А таксама — дзеля мастацкіх знаходак, калі клён адбіваецца растапыранымі даланямі ад мокрых пацалункаў прыставучага восеньскага дажджу, калі камякі гліны асядаюць на вопратцы вершнікаў ордэнамі восеньскіх вандраванняў, а неба зацягваюць хмары, «як быццам паненка заторгнула фіранкі, разгледзеўшы, што кавалер пад еймі вокнамі недастаткова фацэтны».

Застаецца чакаць трэцюю частку прыгод Пранціша Вырвіча.

**Анастасія ГРЫШЧУК**




# Фэнтэзі: ёсць кантакт!

**Калі не лічыць кніг фэнтэзі беларускай пісьменніцы Вольгі Грамыка, вядомых айчынных твораў у такім кірунку напісана няшмат. Але і жанр гэты пакуль што малады. Тым не менш спробы заняць фэнтэзі-нішу ў нашай літаратуры робяцца. Нядаўна выдавецкі дом «Звязда» выпусціў кнігу Эльвіры Вашкевіч «Дарога да Срэбных Вадаспадаў» — цікавы твор і па сюжэце, і па героях.**

З далёкай планеты, дзе жывуць драконы, на зямлю накіроўваецца кантакцёр. Дзеля канспірацыі яму даводзіцца прыняць выгляд звычайнага тэлеграфнага слупа. Так ён і стаіць: чакае, пакуль нехта, хто ўмее бачыць і адчуваць больш, чым звычайныя людзі, заўважыць яго. Але мінаюць гады, а кантакту няма. Пакуль пад слупом не прызнаюць спатканне ажно два чалавекі з магічнымі здольнасцямі...

Прынамсі, сам пачатак кнігі — з драконам-кантакцёрам — скіраваў мяне да іншага твора, аповесці Паўла Місько «Эрпіды на планеце Зямля». Там на нашу планету таксама прылятаюць кантакцёры, праўда, робаты, а не драконы, з іншай сонечнай сістэмы. Але кніга Паўла Місько скіраваная на дзіцячую аўдыторыю, напісана больш лёгка і не падштурхоўвае да разваг ні пра сутнасць кахання, ні пра асаблівасці жаночай псіхалогіі, ні, тым больш, пра сэнс чалавечага жыцця. Эльвіра Вашкевіч у сваю дастаткова дарослую кнігу імкнулася ўкласці больш глыбокі сэнс.

Пісьменніца падае думкі герояў — дракона і ведзьмы — «наўпрост», так што чытач можа зазіраць адразу ў іх свядомасць. Робіцца гэта дзеля таго, каб той жа чытач суперажываў, адчуваў, напрыклад, як сумуе па радзіме госць з далёкай сістэмы, і зведаў перажыванні жанчыны, якая не можа разабрацца з пачуццямі да свайго настаўніка. Праўда, было б лагічней, калі б думкі дракона-іншапланецяніна і зямной ведзьмы падаваліся па-рознаму. Аўтар выкарыстоўвае адны і тыя ж кароткія няпоўныя сказы, і атрымліваецца, што структура думак, іх ход адзін і той жа — і ў зямнога чалавека, і ў істоты, што сталела за сотні светлавых год ад Сонца.

Але гэты невялікі пралік ураўнаважваецца цікавай кампазіцыяй твора.

Дзеянне развіваецца ў двух кірунках: з аднаго боку, ты разам з драконам-слупом чакаеш, калі ж ён знойдзе жывую істоту, якая ўбачыць яго сапраўдную сутнасць; з іншага — хвалюешся за жанчыну і (тут не ўтрымацца ад параўнання з меладрамай) чакаеш традыцыйнай развязкі калі не са шлюбам, то хоць бы з уз'яднаннем закаханых. Такі скрыжаваны мантаж — эмацыянальна напружаныя, драматычныя часткі пра ведзьму разбаўляюцца аднастайнымі «прыгодамі» няшчаснага кантакцёра — толькі на карысць раману.

Кнігу Эльвіры Вашкевіч «Дарога да Срэбных Вадаспадаў» раю перадусім падлеткам, якія любяць фэнтэзі і гісторыі пра каханне, разважаюць пра тое, навошта жыве чалавек. Сёння ў крамах кніг гэтага жанру велізарная колькасць, і лёгка разгубіцца, тым больш калі класічныя творы фэнтэзі ўжо прачытаныя (і не раз). Тут кніга пра дракона і ведзьму будзе якраз. Новае, цікавае, а яшчэ — сваё, беларускае!

**Гэлена МАЛАЙ**

## Адначаснікі



Навум ГАЛЬПЯРОВІЧ

# Нас лучыў Полацк

Так сталася, што ў той дзень, калі на цэнтральнай плошчы роднага Полацка мне павязвалі стужку ганаровага грамадзяніна горада, у Мінску хавалі Генадзя Мікалаевіча Бураўкіна, які ў свой час напісаў: «Не шукайце красот за марамі, // На ўзбярэжжах з крыштальнымі зорамі, // Прыязджайце да нас, на Полаччыну, // Пахадзіце яе прасторамі». Гэтыя радкі нарадзіліся ў самым пачатку творчага шляху вядомага беларускага паэта і дзяржаўнага дзеяча, але любові да родных полацкіх мясцін Бураўкін быў верны да апошніх дзён жыцця. Займаючы самыя высокія пасады, ён не забываўся пры першай нагодзе завітаць у невялікую драўляную хацінку ў полацкай прыгараднай вёсцы Ропна, дзе жыла яго маці. Менавіта адтуль, з пасёлка льнозавода, куды прыслалі працаваць дырэктарам прадпрыемства яго бацьку, ён пешшу тэпаў у Полацк, у школу, пасля заканчэння якой паступіў у БДУ. І першы свой верш надрукаваў менавіта ў полацкай газеце, куды хадзіў на пасяджэнні літаб'яднання «Наддзвіннае», якім кіраваў у той час Алесь Савіцкі. Я быў самым маладым супрацоўнікам газеты ў пачатку сямідзясятых, калі давялося пазнаёміцца са славутым земляком. Гэта сталася дзякуючы майму старэйшаму таварышу па працы Герману Кірылаву, колішняму аднакурсніку Бураўкіна. Генадзь Мікалаевіч быў ужо галоўным рэдактарам часопіса «Маладосць», і я, безумоўна, хваляваўся пры сустрэчы. Але ён трымаўся настолькі проста і па-сяброўску, што хваляванне хутка прайшло. Гэтак жа проста і зычліва паводзіла сябе яго абаяльная жонка Юлія Якаўлеўна. Хіба мог я тады ўявіць сабе, што на дзясяткі гадоў нас звяжа агульная праца пад яго кіраўніцтвам у Дзяржтэлерадыё і часопісе «Вожык»!.. Але да гэтага было яшчэ далёка, і я вачэй не зводзіў са славутага земляка, слухаў яго развагі пра літаратуру, пра Васіля Быкава, новая аповесць якога павінна была выйсці ў «Маладосці»... Дарэчы, праз пару гадоў Бураўкін завітаў у Полацк разам з Быкавым і Міколам Аўрамчыкам. Зноў праз Кірылава ён папярэдзіў пра прыезд, і мы з Іванам Стадольнікам арганізоўвалі выступленне гасцей у педвучылішчы.

У лютым 1981 года я з унутраным трапятаннем заходзіў у кабінет на Чырвонай, 4. Галоўны рэдактар мясцовага вяшчання Станіслаў Гаціла і загадчык сеткі ўласных карэспандэнтаў Георгій Моўчан дакладвалі, як я прайшоў папярэдняе тэрмінае выпрабаванне, а Генадзь Мікалаевіч глядзеў строга-спакойна, быццам бачыў мяне першы раз. Толькі калі Моўчан заўважыў напрыканцы, што я пішу вершы, Бураўкін усміхнуўся куточкамі вуснаў і сказаў: «Ну гэта я знаю. Чытаў». І вось праз тыдзень, 2 сакавіка 1981 года, за яго подпісам выйшаў загад аб залічэнні мяне ў штат уласным карэспандэнтам па Полацкай групе раёнаў, і на гэтай пасадзе з лёгкай рукі Бураўкіна я адпрацаваў аж шаснаццаць гадоў.

Лёсам было наканавана — і пасля таго, як Бураўкін вярнуўся з Нью-Ёрка, дзе прадстаўляў нашу дзяржаву ў ААН, і пасля яго працы ў Саўміне, сустрэцца з ім у агульных калідорах часопіса «Вожык», дзе ён шчыраваў першым намеснікам галоўнага рэдактара, а я — намеснікам-адказным сакратаром. Безумоўна, я адчуваў пэўную дыстанцыю і ніколі не быў з Генадзем Мікалаевічам запанібрата, але частыя сустрэчы на Полаччыне і ў Мінску, агульныя знаёмыя і сябры зрабілі нашы стасункі таварыскімі. Відаць, сапраўды, як пісаў Рыгор Барадулін, ёсць полацкі менталітэт, і гэта наш Полацк, спрадвечная Дзвіна і велічная Сафія нябачнай ніткай лучылі нас.

Дарэчы, у той памятны для мяне і адначасова сумны ад развітання з вялікім земляком дзень яго згадала ў шчырай размове адна з былых кіраўнікоў горада Любоў Савельеўна Шчадрова. І мы моўчкі ўзнялі чаркі ў памяць пра аднаго са слынных сыноў нашай роднай зямлі. А ўвушшу гучалі ягоныя радкі: «Прыязджайце да нас, на Полаччыну, пахадзіце яе прасторамі...»

## Аблічча

# «Я ў сваю дывізію пайшоў»

Фота Сяргея Панізніка



Іван Новікаў (справа) у прысутнасці героя свайго твора Аляксея Пысіна раскрывае сакрэты пісьменніцкага пошуку.

«Рэдактар Дзяржтэлерадыё БССР». На такой пасадзе я быў з сакавіка 1979 года да ліпеня 1982 года. Працаваў над праграмамі «Спадчына», «Памяць»... Дарučалі рыхтаваць 15-хвілінныя перадачы пра кніжныя навінкі рэспубліканскіх выдавецтваў. Дапамагаў мне ў працы дасведчаны Іосіф Уладзіміравіч Скурко, зямляк Максіма Танка. Напачатку ён быў загадчыкам аддзела, а пазней намеснікам галоўнага рэдактара літаратурна-драматычных праграм Беларускага тэлебачання.

Запомніліся імёны трох суаўтараў: Іосіф Скурко, Ігар Лучанок, Віктар Вуячыч. Ох, як пранікала ў душу мелодыя іх песні «Верасы»!

А цяпер уявім, што мы на запісе чарговай літаратурнай тэлеперадачы. У вялікай студыі Іосіф Скурко за столікамі размясціў пісьменнікаў, якія будуць гаварыць пра тэму вайны ў сваёй творчасці. Чакаюць, калі «падплыве» тэлекамера да іх століка, аўтары Мікола Аўрамчык, Аляксей Пысін, Іван Новікаў, аналітык Варлен Бечык. У аб'ектыў ужо маёй фотакамеры трапляе і кампазітар Алег Чыркун: умеў ён пераўвасобіць у песню геранчны дух тэксту.

Былому начальніку разведкі дывізіёна, аўтару ўзнёслай кнігі пра мінскае падполле дапамога Іосіфа Скурко не трэба. І. Новікаў сам прадстаўляе гледачам героя свайго чарговага твора, які ў строгім афіцэрскім мундзіры сядзіць побач. А вось былому армейскаму сувязісту, пранікліва-лірычнаму А. Пысіну на пачатак перадачы патрэбен далёкатны сігнал. І. Скурко ўмее асцярожна задаць патрэбнае пытанне. І ў паэта з'яўляецца натхненне на роздум: «Нас, напэўна, ў свеце не забудуць, // ўспомняць, што на свеце мы жылі».

Аднаго разу Беларускае тэлебачанне правяло сустрэчу пісьменнікаў-ветэранаў у Музеі гісторыі Вялікай Айчыннай вайны (было гэта на пачатку 80-х гадоў). У адной з залаў музея сабралася тады шэсць неабыякавых сведак гераічных і трагічных перажыванняў, змагароў з гітлераўскай навалай. У запісе перадачы ўдзельнічалі партызан, тройчы паранены гвардзеец у баях за ўзяцце Берліна Алесь Савіцкі, баец на Сталінградскім, Украінскім франтах Аляксей Кулакоўскі, партызан і радавы Чырвонай Арміі Іван Навуменка, удзельнік савецка-фінляндскай вайны, начальнік разведкі атрада «Грозны» на Міншчыне Фёдар Янкоўскі, артылерыст-зенітчык Паўлюк Пранузa, удзельнік узяцця Берліна і вызвалення Прагі Пятро Прыходзька.

Іх мастацкія і навуковыя творы, сведчанні сыноў-патрыётаў Айчыны і надалей будуць дапамагаць ацэньваць подзвіг народа. Шукаць іх у нашай памяці лёгка. Дастаткова згадаць падказку Аляксея Пысіна: «Ведайце, калі мяне не стане, — // я ў сваю дывізію пайшоў».

**Сяргей ПАНІЗНІК**

## Чытанні

# Дзве сусветныя вайны і... каханне

26 чэрвеня ў Літаратурным музеі Петруся Броўкі прайшлі XXII Гарэцкія чытанні, прысвечаныя жыццю і творчасці Максіма і Гаўрылы Гарэцкіх. Скразной тэмай канферэнцыі былі гістарычныя даты: 100-годдзе Першай і 75-годдзе Другой сусветных войнаў.

Мерапрыемства наведалі даўнія сябры: даследчыкі творчасці Максіма Гарэцкага, пісьменнікі і дзеячы культуры. Прывіталі прысутных паэт Анатоль Вярцінскі і галоўны рэдактар выдавецтва «Тэхналогія» Зміцер Санько, падзяліліся доследам даследавання Тацццяна Дасаева, Таіса Грамадчанка, Зінаіда Драздова, Міхась Кенька, Сяргей Запрудскі, Вольга Козіч ды інш. А старшынствавалі на пасяджэнні акадэмікі Радзім Гарэцкі і Міхась Мушынскі. Прыемна адзначыць, што былі сярод гасцей і маладыя даследчыкі. Гэта яшчэ раз пацвярджае: творчасць класіка беларускай літаратуры М. Гарэцкага не толькі тэматычна актуальная ў наш час, але і недастаткова даследаваная.

Хаця ці магчыма цалкам растлумачыць, раскрыць творчасць такога ўзроўню? Мы можам толькі наблізіцца да разумення пісьменніка праз чытанне яго твораў, ліставанне і непасрэдны кантакт з яго роднымі — дзякуй Богу, яшчэ ёсць такі шанц. Знаёмства з Радзімам Гарэцкім — пляменнікам пісьменніка, акадэмікам НАН Беларусі — дае магчымасць уявіць, якім быў М. Гарэцкі.

Прыемна ўразіла прэзентацыя кнігі Р. Гарэцкага «Лісты жыцця і кахання», якая адбылася падчас мерапрыемства. Выступоўцы падкрэслівалі актуальнасць і своечасовасць яе з'яўлення сёння, у час, калі інстытут сям'і перажывае глыбокі крызіс. Кніга і сапраўды даволі інтымная, як адзначыў сам аўтар, бо там сабраныя лісты яго бацькоў, вядома ж, напісаныя не для агульнага прачытання. Сын вырашыў апублікаваць іх і не памыліўся: водгукі самыя лепшыя. Не дзіва, бо дзе сёння можна сустрэць такія шчырыя, сапраўдныя, цёплыя пачуцці, сабраныя ў кнігу! Гаўрыла і Ларыса Гарэцкія вымушаны былі давяраць свае пачуцці паперы — такім быў збег абставін. Кожны ліст — старонка жыцця, кахання і роспачы, трапяткога клопату і болю ад немагчымасці нешта змяніць. А колькі ў іх слоў пяшчоты, не вядомых сучаснай моладзі...

Вядома, закраналіся і перспектывы развіцця гарэцказнаўства, папулярызацыі імя Максіма Гарэцкага ў сферы культуры. М. Мушынскі слушна адзначыў недастатковую даследаванасць драматычнай спадчыны класіка, публіцыстыкі (якую можна наблізіць да журналістыкі), нявывучанасць тэмы «Гарэцкі ў літаратурнай крытыцы».

Р. Гарэцкі падкрэсліў, што беларускія тэатры маглі б звярнуць увагу на драматычныя творы пісьменніка і такім чынам пашырыць беларускамоўны рэпертуар.

Вось так, у разважаннях пра вайну і каханне, дасягненні і перспектывы праходзілі Гарэцкія чытанні сёлета. Да наступнай сустрэчы ў гісторыкаў, філосафаў, журналістаў, літаратуразнаўцаў і проста прыхільнікаў дзейнасці Максіма і Гаўрылы Гарэцкіх ёсць магчымасць сустрэць новых сябро ў і пакінуць уласны след у гарэцказнаўстве.

**Вольга ГУБСКАЯ**

Паралелі

# Чытаць — здорава!



Ілюстратар, мультыплікатар і пісьменнік, які жыве ў горадзе Сірак'юс (штат Нью-Ёрк) Філ МакЭндру кажа, што яму заўсёды падабалася маляваць і гэта быў адзіны занятак, якім хацеў займацца да канца жыцця. Ён прызнаецца, што досыць шчаслівы, бо менавіта ў маляванні атрымалася зрабіць кар'еру. Філ натхняецца абсурднымі сітуацыямі, выдумляе адмысловыя «Кніжныя коміксы» ў выглядзе гутарак пра асобныя творы, малюе ілюстрацыі для часопісаў, газет, працуе ў галіне мультыплікацыі. Сёння мастак адказвае на пытанні «Кніжнага свету». З ласкавага дазволу аўтара ў перакладзе на беларускую мову мы таксама публікуем яго «Супервідавочныя сакрэты, якім, на жаль, не вучаць у мастацкай школе» (стар. 10).

**— Многія мастакі, каб адпачыць ад малявання, пішуць апавяданні, раманы. Ведаю, што вы таксама аўтар кніг. Што лепш дапамагае адпачываць: маляванне ці пісьменніцтва?**

— Мне сапраўды падабаецца і маляваць, і пісаць. Але другое ўспрымаю больш як выклік сабе. Я малюю ўжо вельмі даўно, таму здольны нырнуць у працэс і атрымліваць задавальненне без аніякіх перасцярог. Што да стварэння гісторый, тут я не такі ўпэўнены. Таму, мяркую, маляванне больш дапамагае адпачываць, але і стварэнне тэкстаў мяне вельмі ўзрушвае, таму я часта гэта раблю ў вольны час.

**— Пра што вашыя кнігі? Каго вы разглядаеце ў якасці мэтавай аўдыторыі?**

— Мая першая кніга «Плачучы перад тваім сабакам ды іншыя гісторыі» *(Crying In Front Of Your Dog And Other Stories)* — гэта зборнік кароткіх, смешных коміксаў. Яны прысвечаны розным тэмам, але ўсе маюць адну мэту: прымусіць людзей смяяцца. Кожны можа стаць іх чытачом.

**— Ці можна сцвярджаць, што ілюстрацыя для часопіса, газеты — асобны жанр? Што яго вылучае?**

— Калі даюць зададзенні ствараць ілюстрацыі для часопісаў ці газет, звычайна гэтая праца мае рэдактарскую прыроду — ты спрабуеш «букет» інфармацыі




ператварыць у разумны, цікавы, чытэльны, пазнавальны вобраз. Гэта заўсёды выклік, ты пастаўлены ў цвёрдыя межы тэрміну здачы матэрыялу.

**— Калі вы працуеце над ілюстрацыяй да пэўнага тэксту, то імкнецеся, каб карцінка цалкам паўтарала яго асноўную думку, ці можаце прадставіць тую ці іншую ідэю ў алегарычнай форме?**

— Гэта залежыць ад праекта. Некаторыя заказчыкі маюць вельмі дакладнае ўяўленне пра тое, што і як павінна быць намалявана. Але часам выбар застаецца за мастаком: як інтэрпрэтаваць тэкст і ператвараць асноўныя ідэі ў вобразы.

**— Якія тэксты вы асабліва любіце ілюстраваць? Ці маеце любімыя тэмы і вобразы?**

— Мне надта падабаюцца смешныя і дзіўныя тэксты. Таксама люблю загадкі, складаныя сітуацыі, калі трэба намаляваць нешта новае, складаных персанажаў ці сюжэт. Цікава працаваць над героямі з недахопамі, якія ў той жа час мілыя і сімпатычныя.

**— Ці можа аўтар тэксту ці рэдактар уплываць на працэс стварэння вобразаў або фінальны вынік?**

— О так, некалькі разоў я ўдзельнічаў у праектах, падчас працы над якімі знаходзіўся пад уплывам. Часам ён добры, часам кепскі.

**— Колькі патрэбна, каб намаляваць ілюстрацыю да пэўнага тэксту?**

— Усё залежыць ад праекта: былі зададенні, дзе я меў толькі некалькі гадзін на выкананне працы, і былі выпадкі, калі на маляванне даваліся месяцы.

**— Традыцыйнае для «Кніжнага свету» пытанне: ці любіце вы чытаць? Хто ваш любімы аўтар?**

— Так, люблю. Маю шмат любімых пісьменнікаў. З ліку апошніх прачытаных кніг магу вылучыць творы Алісы Націнг, а Джэк Пендарвіс ужо даўно з'яўляецца маім улюбёным аўтарам.

**— Вы працуеце ў розных жанрах: ствараеце вокладкі для часопісаў, ілюстрацыі да кніг, малюеце мультфільмы, коміксы. Складана пераключацца, пераходзіць ад аднаго стылю і жанру да іншага?**

— Па шчырасці, я зусім не думаю пра стыль, проста імкнуся, каб кожны праект, над якім працую, выглядаў як мага больш весела і цікава. Часам, калі пераключаюся з працы для кліента на працу для сябе, даводзіцца траціць некаторы час на тое, каб перафакусіравацца. Гэта ў творчым плане вельмі розныя працэсы.

**— Ці важна для мастака мець уласны стыль?**

— Думаю, добра, калі праца пазнавальная, але ў той жа час лічу, што ўкладваць шмат думак і сіл у стыль — кепская звычка. Проста малюйце файныя рэчы, і хай ваш стыль развіваецца натуральным чынам.

**— Сёння ў Беларусі шмат гавораць пра папулярызацыю чытання. Вы стварылі асобны «Комікс пра кнігі» *(Book Comic)*. Ці можна сцвярджаць, што яго мэта — зацікавіць людзей чытаннем і кнігамі?**

— Не, я не заклікаю людзей чытаць, але спадзяюся, што яны працягваюць гэта рабіць. Кнігі — гэта здорава!

**— Як наконт папяровых кніг? Ведаю, што вы стваралі ілюстрацыі да самаробнай кнігі «Дзве сястры» *(Two Sisters)*, што выйшла накладам усяго ў пяць асобнікаў. Якая была мэта гэтага праекта?**

— Сапраўды, я працаваў над гэтай кнігай разам з Эмай Дэ-Мілтай. Яна папрасіла мяне праілюстраваць уласную прозу. Эма сама сканструявала кнігу. Праўда, яна мае наклад усяго пяць асобнікаў. Мы проста хацелі папрацаваць разам над нечым вясёлым і атрымаць задавальненне. Я хацеў бы ілюстраваць больш яе апавяданняў.

**Марына ВЕСЯЛУХА,**
**малюнкі Філа МакЭндру**

# Розум. Пачуцці. Дыягназ




Вы не задумваліся пра тое, чаму досыць часта ўрачы становяцца добрымі пісьменнікамі? Багаты досвед. Цікавыя гісторыі хвароб пацыентаў. Уменне слухаць і распавядаць. Аналітычныя здольнасці і скрупулёзнасць, дакладнасць у працы з фактамі. Вось і брытанскі неўролаг Олівер Сакс, валодаючы ўсімі пералічанымі рысамі, з лёгкасцю далучыўся да кагорты творцаў. Выдаў чатыры кнігі, апошняя з якіх — «Вока розуму» — не так даўно пабачыла свет пры падтрымцы ТАА «Харвест».

У прадмове да кнігі Олівер Сакс піша, што ўсе яго сваякі — урачы. Бацька і старэйшыя браты — тэрапеўты агульнай практыкі, а мама — хірург. Кожны вечар падчас вячэры сям'я не магла абмінуць размоў на тэму медыцыны. Нехта распавядаў пра адметнасць дыягназу, а нехта — пра паводзіны пацыента ці яго сваякоў. Тады юнак зразумеў, што таксама абавязкова стане доктарам, але будзе распавядаць свае гісторыі не толькі за вячэрай, але і ў кнігах.

Олівер Сакс стаў неўролагам, а ў кнігах імкнецца распавесці пра адметныя выпадкі, паказаць, што «за знешнім здароўем хаваецца складаная праца мозга, яго выключная здольнасць да адаптацыі і перамогі над хваробай, не кажучы ўжо пра мужнасць і сілу духу, пра здольнасць дастойна пераносіць такія пакуты, пра якія большасць з нас нават не мае ўяўлення».

Ключавая тэма кнігі, а таксама тое, што аб'ядноўвае сабраныя пад адной вокладкай гісторыі розных пацыентаў, — фізіялагічныя механізмы зрокавага распазнавання і разнастайныя парушэнні гэтых механізмаў. Да прыкладу, чаму надзвычай таленавітая і знакамітая піяністка губляе здольнасць чытаць ноты з ліста, граць па іх і складаць словы ў літары? А прафесар-нейрабіёлаг усё жыццё жыве без стэрэаскапічнага зроку — ён не здольны ўспрымаць форму, памер прадмета, а таксама ацэньваць адлегласць да яго? Адметна, што нават такія складаныя парушэнні працы мозга можна выправіць — з дапамогай медыцыны, псіхалогіі і нават высокіх тэхналогій.

**Чэслава ПАЛУЯН**






Філ МАКЭНДРУ

# Супервідавочныя сакрэты, якім, на жаль, не вучаць у мастацкай школе

Да мяне прыходзіць шмат лістоў ад студэнтаў-ілюстратараў і маладых мультыплікатараў. Часам яны атрымліваюць заданне зрабіць са мной інтэрв'ю, часам нядаўнія выпускнікі просяць парады, як з былога студэнта ператварыцца ў прафесіянальнага ілюстратара/мультыплікатара. Я атрымліваю лісты з пытаннямі пра тое, як займацца прамоцыяй работ, «прабіцца» на працу ў якасці ілюстратара ці аўтара коміксаў, знайсці кліентаў, чытачоў, аматараў у інтэрнэце і г. д.

Калі чытаю такія лісты, звычайна крыху пасмейваюся, бо і сам усё яшчэ стараюся звесці канцы з канцамі ў працы ілюстратара і мультыплікатара. Я ўсё яшчэ спрабую зразумець, якія рэчы спрацоўваюць, а якія — не. Аднак усё з часам удасканальваецца, становіцца прасцей, паступова.

Я разумею пачуццё страху, што прыходзіць разам з заканчэннем каледжа ці рашэннем пакінуць дзённую працу і зрабіць першыя крокі ў бок кар'еры ілюстратара ці мультыплікатара. Сам меў яго — не так даўно. Карысна размаўляць з людзьмі і вучыцца ў тых, хто ўжо колькі гадоў працуе ў гэтай галіне. Я шмат даведаўся падчас ліставання і гутарак з больш дасведчанымі калегамі. І ўсё яшчэ прашу парад. Я таксама даведаўся пра многія рэчы, спрабуючы і робячы памылкі. Я не маю адказаў на ўсе пытанні (і ніколі не буду мець), але ёсць некаторыя рэчы, якія ведаю дакладна. Большасць з іх падаюцца відавочнымі, лагічнымі. Спадзяюся, мае парады будуць карыснымі для вас.

## МАЛЮЙЦЕ КОЖНЫ ДЗЕНЬ

Калі вы не атрымліваеце задавальненне ад малявання настолькі, што гатовыя рабіць гэта кожны дзень, тады вам, напэўна, трэба знайсці працу ў іншай сферы. Не ведаю наконт вольных мастакоў, але я працую сем дзён на тыдзень.

Фантазія — гэта мускул. Калі вы хочаце, каб ён заставаўся моцным, трэба карыстацца ім кожны дзень. Калі вы страціце звычку штодзённага малявання, то будзе намнога складаней развіць яе зноў. Мускулы слабеюць намнога хутчэй, чым развіваюцца. Таму ніколі не спыняйцеся маляваць! Паўсюль бярыце з сабой нататнікі. Трымайце нататнік каля ложка. Яшчэ адзін — у сумцы. Выдаліце гульню *Angry Birds* з тэлефона і рабіце нейкія накіды, пакуль стаіце ў чарзе ў банку ці едзеце ў метро. Маляванне — вось ваша рэлігія.

## РАБІЦЕ САБЕ ВЫКЛІК

Намалюйце тое, што, як вам здаецца, вы не ўмееце маляваць. Паспрабуйце стварыць комікс, не прамалёўваючы контуры алоўкам, адразу выкарыстоўвайце чарніла. Набудзьце акварэльныя фарбы і гуляйце з імі да таго часу, пакуль вашыя вочы не пераратворацца ў маленькія сэрцы і вы не палюбіце іх, а яны не палюбяць вас у адказ. Калі вам здаецца, што вы не ўмееце маляваць матацыклы, малюйце па матацыкле кожны дзень да таго часу, пакуль не атрымаецца добра.

Зноў жа, крэатыўнасць — гэта мускул. У вас не будзе вялікіх і цвёрдых мышцаў, пакуль вы баіцеся падымаць прадметы, цяжэйшыя за пяць фунтаў.

Застаючыся ў зоне камфорту, вы не развіваецеся. Прымусьце сябе намаляваць нешта, ведаючы, што менавіта гэта будзе складана. Прымусьце сябе маляваць нешта, да чаго ў вас зусім няма цікавасці і знайдзіце спосаб зрабіць гэта цікавым. Раней я не выносіў маляваць пейзажы ці фон малюнкаў, мне больш падабалася маляваць людзей, я пазбягаў фонаў як толькі мог. Таму вырашыў правесці год, акцэнтуючыся на стварэнні выдатных фонаў.

Цяпер люблю маляваць пейзажы, як і людзей, і я стаў больш моцным, рознабаковым ілюстратарам.

## ДОБРА СТАЎЦЕСЯ ДА ЛЮДЗЕЙ

Многія магчымасці, заказы і выстаўкі, што ўзнікалі на маім шляху, сталі простым вынікам гутарак з людзьмі і таго, што я быў добрым хлопцам. Некалькі разоў здаралася: ілюстратары аказваліся занадта занятымі і перанакіроўвалі на мяне частку сваіх заказаў. Я стаў сябрам мультыплікатараў, якія дасягнулі поспеху, і быў шчаслівы, бо яны змяшчалі спасылкі на мае работы і перанакіроўвалі ў мой бок шмат новых чытачоў. Не стаўцеся грэбліва да людзей, якім падабаецца ваша праца, і не ўспрымайце іх як дадзенасць. Сапраўды крыўдна, калі ты сустракаеш мастака, чыёй творчасцю захапляешся, на з'ездзе ці падчас аўтографсесіі, а ён нават не зазірне табе ў вочы ці не ўсміхнецца, каб паказаць, наколькі важны для яго твой інтарэс і тое, што ты гатовы заплаціць за яго працу ўласныя грошы.





Знайшоўшы новага кліента, лепш выконваць яго пажаданні і быць ветлівым. Людзі больш не звернуцца да вас, калі непрыемна мець справу з вамі. Заўсёды кажыце: «Дзякуй». Будзьце ўдзячныя, бо нехта плаціць за тое, што вы сядзіце дома і малюеце! Калі вам ніхто не плаціць, тады будзьце ўдзячныя, што не нарадзіліся без рук.

Не кажыце, што праца іншых — «смецце», нават калі яна вам сапраўды не падабаецца. Я магу назваць шмат мультыплікатараў, больш паспяховых за мяне, але яны ўвесь час ствараюць сумныя і нецікавыя коміксы. Аднак кепскія выказванні пра іх працу і параўнанні іх поспеху з маім ніякім чынам не пойдуць мне на карысць. Гэта было б самаразбурэнне. Няважна, колькі чытачоў мае ваш «Твітар». Будзьце добрымі да людзей і закідвайце матэрыяламі сваіх падпісчыкаў.

## ВЕСЯЛІЦЕСЯ

Мае найлепшыя работы, малюнкі, што мяне больш за ўсё хвалююць і больш за ўсё падабаюцца ды выклікаюць водгук у іншых, — тыя, што я малюю дзеля забавы. Вялікія адкрыцці, прарывы звычайна адбываюцца тады, калі я проста бяздумна малюю. Нататнікі — гэта месца, дзе вы малюеце што заўгодна. Але менавіта там нараджаюцца ідэі. Кожны дзень вылучайце некаторы час, каб проста маляваць, развівацца. Для сябе.

Вы калі-небудзь сядзелі на падлозе і малявалі, як гэта робяць дзеці? Памятаеце, як весела? І няважна, як выглядаў малюнак, калі ён быў завершаны. Проста весела было яго рабіць. Памятаю, як мы з братамі малявалі монстраў і жудасныя замкі. Гэта быў адзін з нашых любімых заняткаў. Мы маглі сядзець і ствараць іх гадзінамі. Мы малявалі іх, бо монстры ды жудасныя замкі нас цікавілі сам працэс малявання забаўляў нас. Не забывайцеся, якім вясёлым можа (і павінна) быць маляванне. Забудзьцеся на тое, што трэба кагосьці ўразіць. Проста атрымлівайце асалоду. Не трэба ціснуць на сябе і думаць, што вы павінны зрабіць нешта неверагоднае. Бо калі вы сядзеце за працу з думкай: «Я павінен зрабіць неверагодны малюнак», — усё адразу ж скончыцца, і ліст паперы застанецца белым. Проста пачынайце маляваць.

## МЭТЫ І ТЭРМІНЫ ВЕЛЬМІ ВАЖНЫЯ

Хочаце намаляваць графічны раман? Зрабіце гэта. Спыніце размовы і проста зрабіце. Не чакайце, калі з'явіцца больш вольнага часу ці вашыя ўменні маляваць будуць больш дасканалымі. Чым старэйшымі вы будзеце станавіцца, тым менш вольнага часу будзеце мець. І адзіны спосаб удасканальваць свае ўменні — шмат маляваць. Некалькі графічных раманаў вартыя таго, каб іх намаляваць. Проста вызначце для сябе тэрмін і намалюйце. Тэрміны вельмі важныя. Цяпер я працую над праектам, які на першы погляд падаваўся надзвычай складаным. Але я падлічыў, што калі кожны дзень рабіць па тры малюнкі, то праца будзе завершана прыкладна праз месяц. Таму ведаю, што кожны дзень я павінен стварыць дакладную колькасць малюнкаў, а калі не зраблю гэта, то на наступны дзень мушу зрабіць больш, каб не парушаць задуманы план. Арганізаванасць і ўвага да тэрмінаў дапамагаюць і прымушаюць мяне быць прадуктыўным. Я зрабіў спецыяльную карту, дзе магу адзначаць свае поспехі. Кожны раз, калі частка задання выкананая, замалёўваю колерам маленькую клетачку. Бачыць у вобразе працэс працы проста цудоўна, мяне захапляе і думка, што вялікі праект хутка будзе завершаны. А яшчэ кажу сабе, што калі не зраблю задуманае за месяц, то мой твар хутка высахне і я проста рассыплюся.

## ТРЭБА РАБІЦЬ ПЕРАПЫНКІ

Калі вы адкопваеце скарб у двары ці стаіце сагнуўшыся над эцюднікам, важна рабіць перапынкі. Яны дапамагаюць трымаць вашу галаву (і цела) свежымі. Мне падабаецца часта рабіць кароткія перапынкі. Малюю цягам гадзіны, потым — прагулка па квартале ці хуткі перакус або проста сяджу і гляджу ў акно некалькі хвілін. Узнагароджвайце сябе за добрую працу!

## НЕ АБМЯЖОЎВАЙЦЕ ЎПЛЫВЫ

У кожнага з нас ёсць мастакі, якія нам падабаюцца і якія на нас уплываюць. Але адна з самых кепскіх рэчаў, што вы можаце зрабіць, — захраснуць на гэтых мастаках ці спрабаваць імітаваць іх. Так, добра вывучаць мастацтва іншых творцаў і вучыцца ў іх, але не адточвайце майстэрства на работах толькі аднаго ці двух мастакоў, што вам падабаюцца. Вывучайце работы многіх. Калі вы дазваляеце сабе знаходзіцца пад уплывам толькі Джэймса Кочалкі, то вы скончыце як бедны варыянт Джэймса Кочалкі. Але ніхто не малюе як Джэймс Кочалка лепш, чым сам Джэймс Кочалка. Чаму нехта павінен звяртаць увагу на вашу працу, калі яны могуць проста пагартаць кнігу Джэймса Кочалкі? Джэймс Кочалка — выдатны мультыплікатар, і вы можаце многаму навучыцца, звярнуўшыся да яго работ, але пераканайцеся, што вы таксама многаму вучыцеся ў іншых мастакоў. Калі малюеце коміксы, паспрабуйце некаторы час не звяртаць увагі на коміксы іншых. Адшукайце натхненне ў раманах, фільмах пра прыроду, старых відэа, паэзіі ці газетных артыкулах. Вашы коміксы стануць намнога лепшымі. Карысці не будзе, калі адзінай крыніцай натхнення з'яўляюцца ўжо папулярныя коміксы. Тысяча людзей спрабуе зрабіць нешта падобнае да комікса, які вам падабаецца, і большасць з іх не стануць паспяховымі. Важна выходзіць з дома, спрабаваць новае і камунікаваць з людзьмі. Свет насыціць вас новымі ідэямі і новымі крыніцамі натхнення.

## НЕ ПРЫНІЖАЙЦЕ СЯБЕ

Калі вы хочаце, каб людзі паважалі ваш занятак, ставіліся да вас сур'ёзна ці плацілі за тое, што вы нешта малюеце, не сварыцеся на сваю працу. Чаму нехта павінен успрымаць яе сур'ёзна, калі нават вы, чалавек, які зрабіў яе, адкрыта кажа, якое гэта глупства? Калі вы хочаце, каб людзі захапляліся вашай працай (і наймалі вас нешта маляваць), трэба паказаць ім, што вы захопленыя ёю самі.

Вось невялічкая гісторыя пра тое, як навучыўся захапляцца я. Калі мне было 20, адзін з маіх коміксаў разам з творамі іншых, ужо вядомых, аўтараў быў упершыню апублікаваны ў першым томе выдання «Ты не танцор» *(You Ain't No Dancer)*. Кніга была прадстаўленая на выстаўцы незалежных коміксаў *Small Press Expo*, якую я наведаў таксама ўпершыню. Мне пашчасціла сустрэцца і пагутарыць з многімі мастакамі, чые творы таксама ўвайшлі ў кнігу, мастакамі, якімі я сапраўды захапляюся. Зразумела, нерваваўся. (Першая выстаўка! Першы апублікаваны комікс! У сапраўднай кнізе! Побач з вельмі-вельмі вялікімі мультыплікатарамі!) Я пабачыў Браяна Лі О'Малі і папрасіў, каб ён падпісаў мой асобнік кнігі «Ты не танцор». Той з радасцю пагадзіўся. І калі ўжо нешта пісаў у кнізе, я сонна заўважыў, што ў гэтым выданні ёсць і мой комікс. Ён ажывіўся. «Сапраўды? Які з іх твой?» — запытаўся Браян і пачаў гартаць кнігу. Спалоханы, я апусціў вочы і сказаў: «О... ммм... ну... ён не такі выдатны...» Калі ж паглядзеў уверх, то адразу пабачыў, што сказаў нешта не тое. Цікавасць, якую мастак мог мець да маёй работы, цалкам знікла. Так, аўтар, чыёй працай я захапляюся, думаю, добры чалавек, але вельмі мала ведае пра мяне і маю працу. Я не ўпэўнены, што ён увогуле мяне памятае.

У кожнага з нас бываюць дні ці нейкія перыяды, калі не падабаецца любая работа, якую мы выконваем. Здараецца! І гэта нармальна! Але толькі з-за таго, што вы перажываеце складаны час, не трэба спыняцца маляваць. Нельга прабіць сабе шлях, нічога не малюючы. Проста зразумейце, што не кожны малюнак ці комікс, які вы робіце, будзе бездакорным, і працягвайце працаваць. Праводзьце час за нататнікам. Калі захапленне праектам знікне, запытайцеся ў сябе, чаму праца больш не захапляе? Што вы можаце зрабіць, каб натхніцца зноў? Змяніце нешта!

Малюйце файныя рэчы і выкладвайце іх у інтэрнэт. Я спрабаваў розныя спосабы самапрамоцыі. Рассылаў паштоўкі па пошце, наведваў выстаўкі, слаў халодныя лісты па электронцы і чакаў халодных званкоў ад мастацкіх рэдактараў (усё яшчэ чакаю). Але самая эфектыўная рэч — самая простая: малюйце файныя рэчы і выкладвайце іх у інтэрнэт. Рабіце гэта час ад часу, і будуць здарацца добрыя падзеі.

**Малюнкі Філа МакЭндру, пераклад з англійскай Марыны Весялухі**

# Школьное «снаряжение», или Учебная сила книг

*Ребёнок подрастает каждую минуту, несмотря на изменения климата, общественные события, экономические реформы. Кажется, ещё вчера он учился ходить, хотел оторвать ухо плюшевому медведю, а сейчас уже идёт в первый класс, волнуется и делает серьёзное лицо. Маленькую, ещё не приспособившуюся к социуму личность ждут новые трудности, главная из которых — подружиться со сверстниками и учителями, научиться понимать людей и выстраивать с ними отношения. К сожалению, семилетнему ребёнку творение Дейла Карнеги о том, как завоёвывать друзей, вряд ли поможет. Но ведь ответы и подсказки можно найти и в художественной литературе, причём, абсолютно любой — с забавными приключениями, страшными сказками или сатирическими стихотворениями. Главное — не переставать думать и быть внимательным.*

## ДРУЗЕЙ НЕ ВЫБИРАЮТ

А вы не были на Таити? Писатель Александр Курляндский, создавший попугая Кешу, автора этой знаменитой фразы, по правде говоря, так и не добрался до экзотического уголка земли. Зато «привёз» из далёкой и жаркой Африки в прославившуюся суровыми зимами Россию пернатого героя, ставшего любимым для многих поколений




детей. **Книги «Попугай Кеша летит на Таити», «Попугай Кеша ищет клад» и «Похищение блудного попугая», вышедшие в издательстве «Русич» при поддержке ООО «Харвест»,** вовлекают маленьких читателей (а также их родителей) в водоворот весёлых и опасных приключений. Характер у Кеши, мягко говоря, не сладкий — вредный и капризный хвастунишка, задиристый и ворчливый болтун. Кажется, больше всего на свете он любит спать или смотреть телевизор, включив звук погромче. Но с развитием сюжета понимаешь, что попугай на самом деле очень преданный и храбрый, а больше всего на свете ценит своих друзей и всегда приходит к ним на помощь. Поделиться конфетами, когда мечтаешь слопать целую коробку наедине? Без проблем! Устроиться на работу к ленивому мальчишке, чтобы прокормить заболевшего воробышка? Не вопрос! Сразиться с грабителями, потушить пожар, слетать на разведку для спасения полярной экспедиции? И с этим он справится! Так что школьнику Вовке, который стал его хозяином, несмотря на вредные выходки своего любимца, очень повезло.

В историях Александра Курляндского, человека с неординарной и яркой фантазией, а также искромётным чувством юмора, есть и другие любопытные персонажи. Среди них — толстый, ленивый, но очень амбициозный кот Василий, который думает преимущественно о красной икре, варёной рыбке и свежей сметане, ворона Клара, красавица, королева всех модниц и неутомимый исследователь городских помоек. Кеша и его друзья постоянно попадают в захватывающие истории. Однажды они решают найти клад, повинуясь воле загадочной золотой шкатулки. Вроде бы всё просто — нужно следовать инструкции, — но один неверный шаг, как из тёплой и уютной квартиры их заносит на берега Арктики, в царство льдов и сугробов. Фантастические похождения на этом не заканчиваются. Вовка, Кеша, Клара и Василий чуть не погибают в горячих песках пустыни, опускаются под воду, рискуя жизнью, сражаются с крабами, убегают от браконьеров, терпят крушение самолета и… к счастью, остаются невредимыми, потому что знают: «дружба — это великая целебная сила».

## МИКСТУРА ОТ ЛЕНИ

**Книга «Весёлые стихи о школе и не только», вышедшая в издательстве «АСТ» при поддержке ООО «Харвест»,** включает двадцать четыре забавных и поучительных стихотворения, а также иллюстрированную азбуку для тех, кто ещё только начинает читать. В издании можно найти произведения трёх авторов — Самуила Маршака, Агнии Барто и Сергея Михалкова, замечательных знатоков детской психологии и отчаянных борцов с ленью, жадностью и прочими видами непослушания. Любой взрослый будет уверен, что их истории, проверенные време-




нем, идеально подойдут тем, кто совсем недавно приспособился к партам и тетрадкам, но никак не может смириться с пробуждением в семь утра и необходимостью каждый день готовить уроки.

Посмотрите на мальчика из стихотворения «Мимоза», который поздня лежит в кровати, бережно завёрнутый в стопку ватных одеял, а потом объедается пирожными и плюшками. Нет, он не инвалид, а всего лишь жертва неправильного воспитания! Мама и папа прощают ему всё, обувают, одевают, как младенца, не подозревая, что из сына вырастет тепличное растение, которое будет бояться... жизни! Как видно, многие тексты будут полезны не только школьникам, но и их родителям. «Это только трус боится на укол идти к врачу / Лично я при виде шприца улыбаюсь и шучу», — кто из мальчишек так не хвастался, скрывая дрожь в коленках перед входом в медкабинет? Девочкам, по натуре своей эмоциональным и плаксивым, очень рекомендуются два других рифмованных рассказа — «Сонечка» и «Любочка». Прочитав их, юная леди поймёт, что истинная красота кроется не в новом платье и аккуратной причёске, а в достойных поступках и вежливой речи. «Весёлые стихи о школе и не только» при вдумчивом чтении произведут эффект более сильный, чем строгая лекция о том, как нужно себя вести.

## МИСТИЧЕСКИЙ ВИХРЬ

Высокие башни, тёмные подземелья, закоулки дворцов и хижин, лесные опушки, защищённые от глаз посторонних стеной из деревьев и трав — места, где обязательно обитают колдуны, ведьмы, маленькие человечки и прочие волшебные существа. Богатство немецкого фольклора на фоне колоритных декораций можно найти в книге «Сказки» братьев Гримм, вышедшей в издательстве «Русич» при поддержке ООО «Харвест». Издание выгодно отличается на фоне остальных своей красочностью, большими иллюстрациями (некоторые из них — размером на целый разворот). Всё это сглаживает лёгкий налёт мрачности, которым всегда окутаны герои великих сказочников — Рапунцель, посаженная под замок жестокой ведьмой, Бременские музыканты, встретившие на своём пути опасных разбойников, гном Румпельштильцхен, укравший




маленького королевича. Каждый из персонажей описан здесь так точно и образно, что читателю с фантазией будет легко в него перевоплотиться. Сказки, вошедшие в сборник, занимают не так много места, но на нескольких страницах разыгрываются целые судьбы, а персонажи проходят множество испытаний перед тем как стать счастливыми.

**Книга «Сказки» Шарля Перро, вышедшая в издательстве «Русич» при поддержке ООО «Харвест»,** выполнена в таком же невероятно реалистичном стиле, как и предыдущая, и будет интересна не только детям, но и взрослым. Французский сказочник, как и братья Гримм, работал с народными сказаниями и легендами, ловко, словно фокусник, превращал их в незабываемые волшебные истории. Красная Шапочка, Кот в сапогах, Спящая красавица, Золушка, Мальчик-с-пальчик, Синяя Борода оживают и сходят со страниц издания, увлекая в свой мир, полный романтики и мистики, от которых замирает сердце. Ценность этих историй ещё и в том, что они не идеализируют мир, а преподносят его со всеми сложностями, злом и несправедливостью, чтобы «закалить» маленьких читателей, сделать их смелее и мужественнее. И пусть критики, которые пишут, будто сказки Шарля Перро нужно прятать от детей, уберут подальше телевизор и возьмут в руки книгу...

**Мария ВОЙТИК**



# Родныя літары для маленькіх

«Беларуская азбука», якую склаў Міраслаў Адамчык, выйшла ў выдавецтве "Харвест" і вартая таго, каб з'явіцца ў кожнай сям'і. Кніга вучыць дзяцей чытаць і пісаць па-беларуску, дапамагае ім спасцігаць родныя літары і словы, абуджае цікавасць да нацыянальнай літаратуры.

Актуальнасць выдання наўрад ці варта аспрэчваць. Вядома, што беларусы жывуць на стыку дзвюх моў. Каб захаваць самасвядомасць, не забыцца пра бацькоўскую гаворку і традыцыі продкаў, страціўшы сябе як нацыю ў свеце, трэба адпаведным чынам выхоўваць маленькіх грамадзян, бо яны — будучыня краіны.

Мамам на заметку: пачынаць чытаць услых можна ўжо немаўляці. Хай яно не разумее, але затое пільна сочыць за мімікай, жэстамі, захоўваючы інфармацыю ў падсвядомасці. Недзе гады ў тры, калі дзіця ўжо гаворыць, навучыцца чытаць яму будзе нашмат прасцей.

Цікава, што літары размешчаны ў азбуцы не па парадку, а па меры лёгкасці іх засваення. Самыя простыя, галосныя А, У, О, І, Ы, Э, падаюцца ў самым пачатку. Потым ідуць зычныя Н, М, Т, Х і гэтак далей. Заканчваецца моўны карагод даволі складанымі спалучэннямі ДЖ, ДЗ і апострафам.




На кожную літару адводзіцца дзве старонкі, на якіх размешчаны даволі грунтоўны вучэбны матэрыял. Звычайныя для кожнай азбукі выявы рэчаў і з'яў, што пачынаюцца з пэўнай літары, дапаўняюцца радкамі ў лінейку для трэніроўкі пісьма, словамі, разбітымі на склады і націскі, маленькімі сцэнкамі з жыцця ў ілюстрацыях і сказах.

Напрыклад, побач з літарай С можна знайсці сан-кі, сі-ні-цу, са-ро-ку, сас-ну, су-кен-ку і нават сапраўднага сома. Адна ілюстрацыя паказвае маленькага сабачку, які спіць на палавіку, а другая, крыху большая, дэманструе, як маці з дачкой пераходзяць дарогу на зялёны сігнал святлафора.

Важна памятаць, што дзіця павінна чытаць не механічна, а ўдумліва, з абавязковым разуменнем сэнсу тэксту. Інакш цудоўная навука літар ператворыцца ў марудную і цяжкае спаборніцтва са сном. Добра таксама звязваць засваенне азбукі з цікавай і захапляльнай гульнёй. Можна, напрыклад, выразаць літары з паперы ці кардону і прыдумаць тэатралізаваную казку, дзе яны будуць галоўнымі героямі.

У другой частцы кнігі размешчаны вершы і апавяданні Францішка Багушэвіча, Максіма Багдановіча, Янкі Купалы, Якуба Коласа, Кузьмы Чорнага, Івана Мележа, Уладзіміра Караткевіча і Янкі Брыля. Чытанне класікаў дазваляе ўзбагаціць і павялічыць слоўнікавы запас. Некаторым словам даецца тлумачэнне. Наўрад ці кожны дарослы ведае, што *пазуры* — гэта кіпцюры, *без нуды* — бесклапотна... Малюнкі побач з вершамі і апавяданнямі — жывыя і яркія, нібы фотаздымкі. Акрамя таго, у кнізе можна пабачыць партрэты пісьменнікаў і сцісла пазнаёміцца з іх біяграфіяй, што будзе добрай падрыхтоўкай да вывучэння школьнага курса беларускай літаратуры.

**Марыя ВОЙЦІК**

Да 100-годдзя Першай сусветнай

# Куды страляць? Адкуль страляюць?



**Лёс распарадзіўся так, што Беларусь стала адной з галоўных арэн баявых дзеянняў Першай сусветнай вайны. На нашай зямлі шмат у чым вырашыўся яе зыход: як вядома, у Магілёве знаходзілася Стаўка Вярхоўнага Галоўнакамандуючага расійскай арміі. Наступствы вайны для беларускага народа насілі трагічны характар: не менш як 900 тысяч жыхароў Беларусі было мабілізавана ў расійскую армію, каля 1,5 мільёна сталі беженцамі і пакінулі яе тэрыторыю, яшчэ амаль 2 мільёны чалавек апынуліся ў зоне нямецкай акупацыі.**

Першая сусветная вайна змяніла і сфарміравала мастацкую індывідуальнасць пісьменнікаў розных краін. Пад уздзеяннем жахаў вайны адбыўся пералом у свядомасці цэлага пакалення маладых людзей (так званага «страчанага пакалення»), якія згубілі веру ў будучыню і перспектыўнасць развіцця грамадства.

Падзеі Першай сусветнай вайны знайшлі адлюстраванне ў такіх творах беларускіх пісьменнікаў, як аповесць «Набліжэнне» (1934) Змітрака Бядулі, апавяданні «Герой нацыі» (1934) Эдуарда Самуйлёнка і «Мой сусед» (1927) Кандрата Крапівы.

Родапачынальнікам жанру ваеннай прозы ў беларускай літаратуры лічыцца Максім Гарэцкі (1883 — 1938), які ўжо ў 1914 годзе бярэцца за ваенную тэматыку. Для пісьменніка не існавала забароненых тэм і сітуацый. У першую чаргу яго цікавіла праўда пра свой народ і чалавека, асабліва псіхалогія персанажа, якая трансфармуецца на вайне, а схаванае ў экстрэмальных сітуацыях выходзіць на паверхню. Гэты напрамак у творчасці М. Гарэцкага абумовіў далейшы шлях развіцця беларускай ваеннай прозы, у прыватнасці, адлюстраванне Вялікай Айчыннай вайны Васілём Быкавым.

У мастацкай спадчыне М. Гарэцкага творы пра Першую сусветную вайну, сведкам і ўдзельнікам якой ён быў, займаюць асаблівае месца. Яго апавяданні «Літоўскі хутарок» (1915), «Генерал» (1916), «На этапе» (1916), «Рускі» (1925), «Пакінутыя дома» (1921), «Бежанцы» (1923) і «Палонны» (1926?) разам з дакументальна-біяграфічнай аповесцю «На імперыялістычнай вайне» (Запіскі салдата 2-й батарэі Н-скай артылерыйскай брыгады Лявона Задумы) (1914 — 1919), аповесцямі «Камароўская хроніка» (1931 — 1939) і «Ціхая плынь» (1917 — 1930) утвараюць найбольш поўны ў беларускай літаратуры збор мастацкіх помнікаў, прысвечаных падзеям 1914 — 1918 гадоў.

З пачаткам Першай сусветнай вайны М. Гарэцкага мабілізуюць у дзеючую царскую армію. У зацяжных крывавых баях ва Усходняй Прусіі пісьменнік на ўласныя вочы бачыў жахі вайны: непадрыхтаваныя наступленні і хуткія крыўдныя адступленні, недарэчныя смерці на кожным кроку, адчуў холад, голад, пакутлівы страх і сорам за гэтыя страх.

У такіх жудасных умовах ён выконвае свае салдацкія абавязкі. Гарэцкі малюе планы пазіцый, вядзе падлік выдаткаваных боепрыпасаў, запісвае каманды, сочыць за артагнём і ўдзельнічае ў баях у якасці тэлефаніста — пад абстрэлам шукае і ліквідуе парывы тэлефоннага дроту. 27 жніўня 1914 года за ўдзел у баі пад г. Аленбургам ён быў узнагароджаны Георгіеўскім крыжам 4-й ступені. 25 кастрычніка 1914 года ў бітве пад г. Герытэнам атрымаў цяжкае раненне. Доўга лячыўся, а пасля шпіталя ў 1916 годзе зноў апынуўся на фронце ў раёне Пінскіх балот.

З самага пачатку Гарэцкі ўспрымаў вайну без ілюзій: як вялікае гора і катастрофу ў сваім жыцці, жыцці беларускага народа і народаў Еўропы. У кароткія хвіліны зацішша, дзень за днём, свае франтавыя ўражанні і назіранні, асабістыя перажыванні пісьменнік акуратна заносіў у дзённік, матэрыялы якога ляглі ў аснову дакументальна-мастацкай аповесці «На імперыялістычнай вайне» (Запіскі салдата другой батарэі Н-скай брыгады Лявона Задумы). Вайна ў "Запісках" — гэта працяглыя баі, нечаканыя артылерыйскія налёты, бяссонныя ночы ў акопах, голад, эпідэміі, і разам з тым гэта салдацкая дружба, чаканне лістоў з дому, узаемаадносіны з мясцовымі жыхарамі, успаміны пра мірнае жыццё.

Аповесць «На імперыялістычнай вайне» пастаўлена крытыкай і даследчыкамі ў адзін шэраг з «Севастопальскімі апавяданнямі» і «Вайной і мірам» Льва Талстога, аповесцямі і раманамі Анры Барбюса, Эрыха Марыі Рэмарка, Рычарда Олдынгтана, Эрнэста Хемінгуэя ды іншых таленавітых сусветных майстроў ваеннай прозы, прадстаўнікоў «страчанага пакалення». Аб'ядноўвае іх матыў расчаравання ў сучасным грамадстве, адмоўнае стаўленне да вайны, на якой знішчаецца індывідуальнае ў чалавеку, рэалістычныя карціны ваеннага жыцця.

Галоўны герой аповесці — 20-гадовы беларускі інтэлігент Лявон Задума — трапляе спачатку ў вайсковую казарму, якая здаецца яму турмой, а потым у пекла вайны, дзе вымушаны ўдзельнічаць у агульным забойстве сабе падобных — такіх жа нявольнікаў, як сам. Усё гэта ўяўляецца яму найбольшым здзекам з чалавека. Разумеючы вайну як злачынства і вар'яцтва, ён цярпліва трывае ўсе нягоды і вядзе дзённік, дзе праўдзіва апісвае франтавыя будні: разбурэнні, пажары, марадзёрства, жорсткасць, смерць.

Для героя, як і для самога аўтара, Першая сусветная вайна наогул чужая. Абарона Сербіі здаецца абсурдам у той час, калі беларускі народ ніяк не можа вырашыць сваё нацыянальнае пытанне, набыць незалежнасць. Многія салдаты-беларусы гінуць, так і не зразумеўшы, за што змагаліся.

Гарэцкі піша: «Вайна — гэта забойства быдла быдлам». Яна малюецца аўтарам як бессэнсоўная справа, як працэс, што не мае ніякай логікі. Галоўны герой Лявон Задума так апісвае дзеянні сваёй артылерыйскай батарэі: яны едуць па брудзе, спыняюцца, страляюць, потым зноў кудысьці едуць. Самі салдаты не бачаць ворага, ім кажуць, куды страляць ці адкуль страляюць па іх, у выніку чаго батарэя Задумы забівае сваю ж пяхоту. Батарэйцы нават не ведаюць, наступаюць яны ці адступаюць. Імі нібыта кіруе сама вайна, гэта яе законы прымушаюць людзей кудысьці рухацца, страляць і прымаць смерць.

М. Гарэцкі быў сведкам мужнасці і гераізму галодных, кепска апранутых салдат кепска ўзброенай арміі, якой камандавалі бяздарныя генералы. «У нас ёсць спадары афіцэры, ды няма палкаводцаў», — з горыччу запісваў у дзённік Лявон Задума. У той жа час ён не прымаў афіцыйнай трактоўкі геройства, якую навязвалі салдатам, — гатоўнасці ахвяраваць жыццём за Расію і народ. Аўтар лічыць, што подзвіг нараджаецца не з імкнення да славы, а з жудасных дум, што могуць забіць, боязі ваеннага трыбунала, воінскай дысцыпліны.

Вярнуўшыся з вайны ў родныя мясціны, галоўны герой не знаходзіць доўгачаканай радасці і душэўнага спакою. Ён бачыць яшчэ больш разбураную вёску, сумнае існаванне селяніна без надзеі на лепшае, беднасць, цемру. Лявон абураны абыякавасцю сялян да свайго лёсу, і гэта праяўляецца ў неабгрунтаваных праступках лютасці. Лічачы вайну жорсткай і бруднай справай, насуперак сабе, ён стрымана забівае злоўленага голуба, беспадстаўна крыўдзіць маці, якую моцна любіць і шкадуе, груба, з усёй сілы дае выспятка свайму сабаку ў адказ на яго ласку. У гэтым эпізодзе паказана ўся праўда пра вайну як разбуральную сілу і пра чалавека, які пры сутыкненні з ёй не можа застацца ранейшым.

Пасля таго, як уладам спатрэбілася новае папаўненне арміі, Лявона зноў забіраюць на фронт. Ён разумее сваю асуджанасць: «Заб'юць цяпер. Ну і чорт яго бяры, такое жыццё, — не шкада». Толькі пачуццё сваяцтва з франтавымі таварышамі падтрымлівала веру Лявона Задумы ў жыццё.

Аповесць «На імперыялістычнай вайне» была апублікавана толькі ў 1926 годзе і станоўча сустрэта літаратурнай крытыкай, якая справядліва адзначыла яе глыбокую праўдзівасць, жанравае наватарства і навізну ў падыходзе да асвятлення тэмы.

***

Асобнай увагі заслугоўвае і малая проза Максіма Гарэцкага, дзе аўтар апавядае пра скалечаныя вайной лёсы людзей. Пісьменнік называе галоўных дзеючых асоб у адпаведнасці з іх фармальнай прыналежнасцю да войска краіны-ўдзельніцы (рускі, аўстрыец), воінскага звання (генерал, ротны камандзір, прапаршчык), месца жыхарства. Робіць гэта, каб падкрэсліць, што кожны з засведчаных эпізодаў — толькі тыповы прыклад з бясконцага шэрагу падобных.

Так, у апавяданні «Рускі» паказаны трагічны вобраз салдата-селяніна з Магілёўскай губерні: ён страціў розум пасля забойства аўстрыйскага салдата, з якім амаль што пасябраваў. Пад уплывам афіцыйнай прапаганды персанаж вырашыў, што ворага неабходна адразу ж забіваць ці браць у палон. Аднак ні веды, ні пачуцці не маглі падказаць рускаму, што рабіць з чалавекам, які так падобны да свайго і не пагражае жыццю.

Да 100-годдзя Першай сусветнай вайны па матывах гэтага твора на кінастудыі «Беларусьфільм» вядуцца здымкі кароткаметражнага фільма «Рускі», які ў хуткім часе выйдзе на экраны.

У апавяданні «Генерал» пісьменнік паказвае марную ахвяру — прапаршчыка, які гіне па капрызе старога служакі царскай арміі. Смерць прапаршчыка дае магчымасць генералу сказаць некалькі пранікнёных слоў пра «славу загінуўшых сыноў айчыны», тэатральна схіліцца над забітым. Генерал не адчувае задавальнення ад таго, што адбылося, не таму, што па яго віне гіне чалавек, а таму, што смерць гэта выпадковая і прыкрая, а не гераічная і самаадданая. Яна не можа натхніць іх на подзвіг і жаданне трываць нягоды ў акопе ў імя высокага ідэалу. Яго пафасныя словы не знаходзяць адпаведнага водгуку ў салдацкай масе: яны слухаюць моўчкі і іранічна.

Апавяданне «Палонны» — гісторыя салдата-беларуса, што трапіў у палон да немцаў каля Беластока. Аўтар распавядае пра пакуты чалавека, які з-за імкнення трапіць на Радзіму двойчы спрабуе збегчы з палону. Ён успрымае нягоды як наканаванне. Яго не абурае тое, што іншыя спробы ўцёкаў скончыліся няўдачай, бо яго і таварышаў выдаў немцам мясцовы паляк. Селянін-беларус спрабуе зразумець матывы здрадніка. Такія паводзіны ён апраўдвае жаданнем зарабіць: за кожнага былога палоннага, вернутага ўладам, можна было атрымаць 25 марак. Асаблівай нянавісці няма ў яго і ў эпізодах, дзе распавядаецца пра пакаранне за ўцёкі, якое скончылася шпіталем. З павагай палонны ставіцца да параненага нямецкага афіцэра, які калісьці трымаў кандытарскую ў Пецярбургу. Усё гэта — адметныя рысы нацыянальнага характару беларуса.

Выпадковая трапляе ў акопы Хомка — галоўны герой аповесці Гарэцкага «Ціхая плынь». Яго думкі пазбаўленыя патрыятычнага ўздыму, жадання ажыццявіць неверагодныя подзвігі ў імя Радзімы. У яго, юнака-беларуса, стомленага цяжкай працай з дзяцінства, слова «вайна» не выклікае ніякіх асацыяцый. Адзінае, што хоць крыху цікавіць персанажа ў той сітуацыі, — гэта магчымасць апрануцца ў прыгожую форму, пакаштаваць новыя стравы, убачыць вялікія гарады, трамвай і электрычнасць. У акопах Хомка правёў усяго некалькі гадзін, за якія не паспеў даведацца пра вайну шмат, хоць і перажыў некалькі хвілін паралізуючага волю жаху да моманту, калі нешта параніла яго і абарвала жыццё. Апошняй думкай, якая ўзнікае ў свядомасці галоўнага героя, было пытанне «За што?».

Самым трагічным творам Максіма Гарэцкага пра Першую сусветную вайну з'яўляецца апавяданне «Літоўскі хутарок». Паказваючы лёсы людзей, якія сталі ахвярамі ваеннага канфлікту, закранаючы тэму бежанцаў і жорсткасці акупантаў-немцаў, аўтар кажа пра бездапаможнасць і безабароннасць народа ў гады імперыялістычнай вайны.

У сваёй творчасці М. Гарэцкі імкнуўся не столькі асэнсаваць вайну, колькі даць ёй праўдзівае апісанне і папярэдзіць пра тое, што гэта — найбольшае зло для цывілізацыі. Ён акцэнтаваў увагу на чалавеку ў экстрэмальнай ваеннай сітуацыі, праблеме выбару мадэлі паводзін, прыродзе подзвігу на вайне, матывах франтавога братэрства і «роўнасці бакоў».

Тыя ацэнкі вайны, якія мы сустракаем у творах беларускага празаіка, — гэта выказванні саміх удзельнікаў падзей і іх стаўленне да таго, што адбываецца: «Задумаўся я над прамовай камандзіра. Няўжо можна ўгаварыць салдата ісці на вайну з натхненнем, каб абараняць нейкую Сербію? Ну і трапіў я ў завaруху!»

У 1928 годзе М. Гарэцкі адзначаў, што імперыялістычная вайна, бежанства і акупацыя не знайшлі ў тагачаснай літаратуры належнага адлюстравання. Многія беларускія паэты і пісьменнікі падчас трагічных падзей перасталі пісаць, іншыя некаторы час спрабавалі сказаць нешта сваё пра вайну, але гэта ім часцей за ўсё ўдавалася слаба. Гарэцкі зазначыў, што літаратурная творчасць пісьменніка перыяду вайны ці іншай катастрофы залежыць ад таго, у якой меры гэта закранула яго жыццё і краіну.

**Юлія КАСЦЮК**

# У нас — свой Шэкспір!


Фота Марыны Катляровай

Эскал, князь веронскі — Віктар Дашкевіч.

Наўрад ці шмат хто будзе спрачацца з тым, што Уільям Шэкспір — найвялікшы сусветны драматург. Тым больш сёлета, калі адзначаецца яго 450-годдзе. Нацыянальны акадэмічны драматычны тэатр імя Якуба Коласа адсвяткаваў знакавую дату прэм'ерай «найсумнейшай гісторыі на свеце» ў пастаноўцы рэжысёра, народнага артыста Расіі Валерыя Беляковіча.

Для Коласаўскага тэатра гэта не першы спектакль «Рамэа і Джульета». У 1986 годзе ўжо была ўдалая спроба паставіць п'есу. Сёлета за пастаноўку ўзяўся знакаміты на славянскіх тэатральных прасторах дзеяч мастацтваў — заснавальнік маскоўскага «Тэатра на Юго-Западе». Віцебскі глядач добра ведае Валерыя Раманавіча па спектаклях, прадстаўленых на тэатральных сустрэчах падчас Міжнароднага фестывалю мастацтваў «Славянскі базар у Віцебску».

— Упершыню я паставіў гэты спектакль у 1992 годзе ў Маскве. З таго часу працую над ім усё жыццё, і кожны раз знаходзіцца нешта новае, нечаканае, — адзначае Валерый Беляковіч.

Дарэчы, В. Беляковіч — беларус, яго бацька — родам з Піншчыны. Таму і беларуская мова рэжысёру знаёмая, і народныя традыцыі закладзены з дзяцінства. Як шчыра прызнаўся Валерый Раманавіч, ён вельмі хацеў паставіць спектакль у Беларусі. Называе такі шанц Божай узнагародай.

Агучваць сюжэт трагедыі, мяркую, не трэба. Сэнс застаўся тым жа, што і ў часы Шэкспіра. Праблема нянавісці і гвалту існавала заўсёды. Акцёры разам з гледачамі разважаюць, як выкараніць прагу помсты, злосць, што нішчыць людзей… Няўжо ахвярай мусіць апынуцца пачуццё юных сэрцаў?

Глядач знаходзіцца ў пастаянным напружанні. Бойкі паміж служкамі Мантэкі і Капулецці, вір веронскіх карнавалаў — дзеянне безупынку. У спектаклі іграе ўсё: пластычныя рухі акцёраў, шыкоўныя касцюмы, дакладнае музычнае афармленне ды інш. Трагічныя сцэны, імклівае маскараднае відовішча ствараюць выключны тэатральны кактэйль, які даспадобы і дасведчанаму крытыку, і гледачу-пачаткоўцу.

Шмат што стала новым і для акцёраўколасаўцаў: праца — па прынцыпах пляцавай тэатральнай школы, якая закладзена ў аснову «Театра на Юго-Западе». Але прафесійныя артысты, нягледзячы на кароткі тэрмін, адведзены на пастаноўку, хутка адаптаваліся. Побач з заслужанымі артыстамі Рэспублікі Беларусь Вячаславам Грушовым (сіньёр Капулецці), Таццянай Ліхачовай (лэдзі Мантэкі), Тамарай Скварцовай (Карміцелька) выдатна выконвае рэжысёрскія задачы і моладзь. Яўген Бераснеў, які іграе Меркуцыа, чарговы раз здзіўляе акцёрскімі знаходкамі; надзвычай характарны Бенволіа атрымаўся ў Дзмітрыя Каваленкі. А з галоўнымі героямі атрымалася нечакана-сімвалічнае супадзенне імёнаў: Рамэа іграе Раман Салаўёў, а Джульету — Юлія Цвікі.

Валерый Беляковіч, які ставіў Шэкспіра ў ЗША, Японіі, у шматлікіх расійскіх тэатрах, задаволены працай беларускіх акцёраў, іх духоўнай сілай. Пацвердзіў гэта і той факт, што, маючы магчымасць паехаць у Мінск на прагляд «Гамлета» ў выкананні легендарнага тэатра «Глобус», рэжысёр застаўся ў Віцебску — прэм'ера! «Шэкспір бы не пакінуў сваіх артыстаў, — упэўнены Валерый Раманавіч. — У нас — свой Шэкспір, — дадае рэжысёр.

Адно жаданне Валерыя Беляковіча спраўдзілася. Наступнае — прывезці коласаўскі спектакль у Маскву, каб пачулі, як цудоўна гучыць шэкспіраўская паэзія на беларускай мове.

**Алесь ЗАМКОЎСКІ,**
**літаратурны рэдактар НАДТ імя Я. Коласа**


Фота Марыны Катляровай

Рамэа — Раман Салаўёў, Джульета — Юлія Цвікі.



# Мадонны для землякоў Кузьміча

Карцінная галерэя вядомага беларускага мастака Аляксея Кузьміча адкрылася на яго малой радзіме — у вёсцы Махро Іванаўскага раёна. Прапанова аб стварэнні паступіла ад сям'і жывапісца, якая і перадала палотны творцы. Пакуль галерэя працуе як грамадская, але хутка павінна атрымаць статус дзяржаўнай.

Пры жыцці Аляксей Кузьміч пастаянна прыязджаў сюды, ладзіў выстаўкі, творчыя сустрэчы. Адкрыццё мастацкай установы прымеркавалі да дня нараджэння майстра. У праграме свята — тэатралізаванае прадстаўленне «У коле палескіх Мадоннаў», экскурсія па галерэі «Дарога да дома», а таксама выступленні творчых калектываў раёна «Земляку прысвячаецца».

Падчас адкрыцця старшыня райвыканкама Юрый Бісун адзначыў, што на Іванаўшчыне шануюць гістарычную спадчыну: ёсць помнік Напалеону Орду, адкрыты музей яго імя, а ў сярэдняй школе вёскі Махро працуе музей мастака Анатоля Рабіновіча, настаўніка Аляксея Кузьміча. Начальнік галоўнага ўпраўлення ідэалагічнай работы, культуры і па справах моладзі Брэсцкага аблвыканкама Аляксандр Цыральчук падкрэсліў, што адна з ключавых тэм у творчасці А. Кузьміча — адзінства славянскіх народаў, якой прысвечаны цыкл палотнаў.

Першую экскурсію ў галерэі правёў сын мастака, Аляксей Кузьміч-малодшы. Ён жа з'яўляецца куратарам праекта. У залах размясціліся не толькі карціны жывапісца, але і яго асабістыя рэчы: кнігі, альбомы, пэндзлі, мальберты — усяго каля сямісот экспанатаў.

Знакамітыя цыклы мастака — «Мадонны, якія сышлі з нябёсаў», «Залатыя Мадонны», «Сярэбраныя Мадонны», «Мадонны, якія плачуць» — адметныя і пазнавальныя па манеры пісання, акрэсліваюць высокае прадвызначэнне жанчыны-маці. Творчасць А. Кузьміча верная вечным каштоўнасцям: мацярынству, прыгажосці і дабрыні. Чорнага колеру на палотнах амаль няма: мастак, як імпрэсіяністы, не карыстаўся цёмнымі фарбамі. Знакаміты беларускі творца пісаў не толькі мадоннаў — ён аўтар больш як 50 партрэтаў вядомых дзеячаў культуры Беларусі. Аляксею Кузьмічу пазіравалі Стэфанія Станюта, Марыя Захарэвіч, Барыс Луцэнка, Міхаіл Пташук, Уладзімір Гасцюхін ды інш.

Сын мастака Аляксей Кузьміч-малодшы лічыць сваім абавязкам захаваць творчую спадчыну бацькі: ён вельмі ўдзячны старшыні Брэсцкага аблвыканкама Канстанціну Сумару, мецэнатам і мясцовым жыхарам за падтрымку. Аляксей не збіраецца спыняцца: да 70-гадовага юбілею бацькі плануецца фестываль «Шоу Мадоннаў», выданне кнігі, выстаўка карцін у Нацыянальным мастацкім музеі, шэраг выставак у музеях Масквы, Санкт-Пецярбурга, Рыма.

**Галіна ФАТЫХАВА**

# «Баюся аказацца забытым…»

## ЛЁС ПАЭТА Ў ФРАНТАВЫХ ЛІСТАХ

**У гады вайны на тэрыторыі Беларусі ў Чырвонай арміі і партызанскіх атрадах змагаліся тысячы грузінаў. Многія з іх так і не вярнуліся дахаты, а іх апошнім прытулкам стала наша шматпакутная беларуская зямля. У іх ліку быў і цудоўны грузінскі паэт Мірза Гелавані. Трагічны лёс гэтага чалавека і паэта, як трагічны лёс мільёнаў таленавітых людзей, чые жыцці перакрэсліла вайна. І толькі голас нямногіх з іх здолеў прарвацца да нас праз гады непрызнання і забыцця. У сваіх вершах і лістах з фронту ён прадчуваў сваю гібель і няпросты лёс сваіх вершаў.**



Мірза (Раваз) Гедэонавіч Гелавані нарадзіўся 2 сакавіка 1917 года ў Грузіі ў сям'і народнага настаўніка, у сяле Накалакары Тыянецкага раёна, якое размешчана на зялёных берагах ракі Іёры, у Тыянецкім падгор'і. Ён быў сёмым дзіцём у сям'і, крыху хваравітым, таму бацька яшчэ ў дзяцінстве купіў яму паляўнічую стрэльбу, каб на паляванні ён загартаваў сябе.

Ён захапляўся паляваннем, спортам, любіў рэкі, кветкі, вінаграднікі, палі і лясы. Ён любіў і горы — бо яго продкі паходзілі з казачнай Сванетыі. Увесь свой вольны час ён бавіў з вясковымі хлопчыкамі.

Яму было няшмат год, гэтаму юнаку, але ён шмат чытаў і шмат ведаў. Стройны сінявокі хлопец у чорнай сацінавай касавароцы; рамантык па натуры, дзіця па характары. Мірза з дзяцінства палюбіў родную грузінскую, а таксама рускую і замежную класіку, сучасную літаратуру. У бацькі была цудоўная бібліятэка. Чытаў Важу Пшавела і Льва Талстога, Шэкспіра, Пушкіна і Мікалая Бараташвілі, Лермантава і Галактыёна Табідзэ.

Пісаць вершы пачаў яшчэ ў дзяцінстве. Першая публікацыя М. Гелавані датуецца 1935 годам. Гэта быў верш «Белая зямля», які паэт Раджэн Гветадзэ уключыў у свой раман «Вечары ў Лашауры».

Гэты юнак з цікаўным розумам прыйшоў у паэзію нечакана, прыйшоў з вялікім творчым дарам. І ўсе адразу заўважылі яго незвычайны талент, яго магутны паэтычны голас. Вершы «Ленін», «Балада аб будаўніку Вардзіа», «Шаўлега», «Аон» звярнулі на сябе ўсеагульную ўвагу.

У 1935 годзе Мірза скончыў Тыянецкі педагагічны тэхнікум, потым працаваў у школе. У 1936 годзе вялікая сям'я Гелавані пераехала ў Тбілісі. Там Мірза стаў слухаць лекцыі ў Дзяржаўным універсітэце. У 1936 — 1939 гадах М. Гелавані працаваў карэктарам у выдавецтве «Сабчота Мцаралі», затым у газеце «Сабчота Абхазеці» ў Сухумі.

У другой палове 1930-х гадоў яго вершы і балады пастаянна друкаваліся ў маладзевым часопісе «Чвені таоба» і «Мнатобі». Маладому паэту прадказвалі вялікую будучыню. Яго талент быў адзначаны патрыярхам грузінскай паэзіі, самім «Вялікім Галактыёнам», а таксама выдатным грузінскім пісьменнікам Канстанцінэ Гамсахурдзія.

Сябар паэта, грузінскі пісьменнік, драматург Мікалай Марказавіч Мікава так успамінаў пра Мірзу: «Колькі захапляльнасці, чыстай мары! Колькі любові да чалавека было прыхавана ў гэтым рамантычным юнаку! Ён быў простым, сціплым, унутрана гордым, светлавалосым, з вельмі сінімі вачамі; сапраўдны рыцар, непрымірымы вораг усялякага кшталту гора і зменлівасцей лёсу, прыгнёту чалавека».

У 22 гады Мірза стаў членам Саюза пісьменнікаў Грузіі! А напрыканцы кастрычніка 1939 года яго забралі ў армію. Перад ад'ездам Мірза сказаў: «Хачу адчуць жыццё салдата, і калі, дасць бог, вярнуся жывым, тады мае вершы набудуць праўдзівасць і мужнасць».

Больш сваю любімую Грузію ён так і не ўбачыў. Пяць гадоў не здымаў ваенную форму, прайшоў шлях ад шараговага, курсанта танкавага вучылішча да капітана, камандзіра батальёна.

Да пачатку Вялікай Айчыннай вайны ён быў ужо дасведчаным баявым камандзірам — ваяваў з белафінамі.

Усю вайну да самай сваёй гібелі Мірза правёў у баявой машыне, у танку. Змагаўся на Маскоўскім кірунку, прайшоў Бесарабію і Закарпацце.

У бязлітаснай мясарубцы вайны Мірза застаўся паэтам: ён працягваў пісаць вершы — у перапынках паміж баямі, пад грымоты гарматаў і свіст куль, у бліндажах і акопах, у танку. Якую патрэбна мець мужнасць, якую вытрымку, упэўненасць… Гэтыя вершы былі напісаныя «нервамі і крывёй уласнага сэрца» паэта. У рэдкія гадзіны зацішша ён чытаў аднапалчанам свае творы на грузінскай мове. Ніхто са слухачоў яе не ведаў, але ўсе разумелі хваляваўшыя аўтара пачуцці: такія яны былі выпакутаваныя — пра Радзіму, каханне, сяброўства.

Што да франтавога жыцця, звесткі вельмі скупыя, але захаваліся лісты з фронту, якія ён пісаў маме, сёстрам. З іх мы даведаемся, як гэта — быць паэтам на вайне. У лістах адчуваецца вялікі смутак і апаска аказацца забытым. У лісце да сястры Русудан у верасні 1940 года ён піша: «Аднак больш за ўсё мяне засмуціла мая адзінота, якую я ўсвядоміў асабліва выразна, прачытаўшы вершы і ўспомніўшы маіх сяброў. Не ведаю чаму, але я баюся за сябе. Баюся аказацца забытым усімі. Я шмат хацеў і шмат магу зрабіць, але не ведаю як. Раптам мой лёс тут прадоўжыцца. Мяне стомяцца чакаць у Грузіі, і я сам стамлюся чакаць. Вось і 24 ужо спаўняецца. Гэта дастаткова вялікі ўзрост, а я яшчэ нічога не паспеў зрабіць».

З пачаткам вайны змяняецца тон лістоў Мірзы: «Верце, мае дарагія, калі ў гэтай вайне маё жыццё перарвецца, калі мне суджана памерці, маё жыццё вельмі дорага будзе каштаваць ворагу. І вам прыйдзецца саромецца, таму што я плоць ад плоці і кроў ад крыві ваш сын. Вы можаце з гордасцю сказаць, што я абараняю Радзіму для таго, каб будучыя пакаленні былі здаровыя, шчаслівыя і моцныя» (з ліста да маці і сясцёр).

А вось вытрымкі з ліста бацькам, датаванага 31 жніўнем 1941 года: «Цудоўны народ рускія! Іду на фронт ці вяртаюся з фронту — заўсёды сустракаюць са здзіўляльнай гасціннасцю. Малако, мёд і гарачая гарбата ў нас заўсёды ёсць. Я ўжо пазнаёміўся з Расіяй і рады, што там так хораша. У маленькіх прыфрантавых вёсачках у мяне ужо ёсць добрыя знаёмыя. Сустракаючы і праважаючы мяне, яны гавораць: «Сцеражы цябе бог, сынку!»

У лісце да Мікалая Мікавэ ад 24 снежня 1942 года Мірза пісаў: «Сотні гадоў таму, вяртаючыся з вайны, герой, мой продак, будаваў Вардзію, Сіёні, Алавердзі. На высокую гару на сваёй спіне ўздымаў ён цяжкія глыбы мармуру і ствараў храмы з выразнымі фрэскамі. У гэтых храмах ён пісаў «Віцязя ў тыгровай шкуры». Ён будаваў, тварыў і пакідаў мне свае творы, каб я мог ганарыцца. Дом майго дзеда, праца маіх продкаў зараз у небяспецы, — вораг стаіць каля гор Каўказа! Але як можна сагнуць Казбегі?! Ён ніколі ні перад кім не прыніжаўся».

З ліста да Мікалая Мікавэ ад 13 лютага 1943 года: «Брат мой, Коля, дасылаю табе свае новыя вершы са сшытка «Ваенная лірыка». Вайна вылечыла мае хворыя нервы, і зараз я дзіўлюся таму, якім я быў учора. Мае вершы пакуталі ад залішняй пяшчоты. Ціхая ўсмешка была характэрная для мяне. Зараз я развучыўся ўсміхацца ціха, і толькі тады, калі вораг бяжыць пад нашым агнём, калі стогны параненых ці халодныя позіркі варожых трупаў сустракаюць мяне, ідучага наперад, я ведаю: на маіх вуснах зноў усмешка — усмешка чалавека, які прагне помсты».

У маі 1943 года лейтэнант Гелавані пісаў сябру: «Я сёння ўспомніў любімую абхазскую прымаўку, што «сяброўства, як кінжал, мае два лязы, і вораг не зможа да іх падысці». Колькі ў мяне зараз сяброў — рускіх, украінцаў, беларусаў, армянаў, — і наша сяброўства сапраўды як той кінжал! Няхай паспрабуе вораг, няхай падыдзе!»

З ліста да сястры Русудан ад 30 красавіка 1944 года: «У мяне была магчымасць застацца ў Маскве, але я чамусьці не захацеў — і вось я зноў на фронце. Цяжка ўявіць, але, аказваецца, прызвычайваешся да фронту і цяжкасцей: закончыцца вайна, і сэрца, можа быць, засумуе па мірным жыцці.

Беларускія лясы і балоты абуджаюцца. Прыйшла вясна і бударажыць усю зямлю. Як жа хораша ў гэты апошні дзень красавіка! Стаіць сонечны, красавіцкі дзень, і душа мая поўная дабра, радасці. Радасць перапаўняе мяне, і я такі вольны і бесклапотны, быццам да мяе вярнулася дзяцінства. Сёння, у гэтую гадзіну, калі я атрымаў твой ліст, я — дваццацісямігадовае дзіця — вырашыў адразу ж адказаць табе».

Аперацыя па вызваленні Беларусі пад кодавай назвай «Баграціён», якая пачалася 23 чэрвеня 1944 года, увайшла ў гісторыю Вялікай Айчыннай вайны як адна з буйнейшых стратэгічных аперацый. Лета тады было асабліва дажджлівым. Танкавым калонам прыходзілася проста прадзірацца цераз балоцістую пойму Заходняй Дзвіны.

Напярэдадні грандыёзных падзей Мірза адпраўляе дахаты, сёстрам Раэне і Русудан, лісты з франтавым фотаздымкам, цікавіцца літаратурнымі навінамі, дзякуе бацьку за атрыманую літаратурную газету. У экстрэмальных умовах пастаянных жорсткіх баёў за занятыя ворагам вышыні Мірза непакоіцца пра лёс сваіх вершаў: «Чаму не надрукавалі мае вершы, няўжо яны недастаткова шчырыя?»

«Сёння дажджлівы дзень. Звычайны беларускі дажджлівы дзень. Дождж марасіць беспярэпынна, і мне падаецца, што ён ідзе знарок, каб раззлаваць людзей. У маім сэрцы няма дажджу. Толькі боль у маім сэрцы ад таго, што ў Грузіі забыліся пра мяне менавіта тыя, на каго я спадзяваўся і ў каго верыў. У добры шлях ім!» (з ліста 19 чэрвеня 1944 года)

Апошні бой капітан Гелавані прыняў на віцебскай зямлі. Загінуў 19 чэрвеня 1944 года пры фарсіраванні ракі Заходняя Дзвіна.

Беларускія партызаны пахавалі яго як камандзіра асобна, у лесе каля дарогі, недалёка ад вёскі Ніжняе Крывіна. На яго магіле быў пастаўлены абеліск з надпісам і фотаздымкам.

> **« У бязлітаснай мясарубцы вайны Мірза застаўся паэтам: ён працягваў пісаць вершы — у перапынках паміж баямі, пад грымоты гарматаў і свіст куляў, у бліндажах і акопах, у танку. Якую патрэбна мець мужнасць, якую вытрымку, упэўненасць… Гэтыя вершы былі напісаныя «нервамі і крывёй уласнага сэрца» паэта. У рэдкія гадзіны зацішша ён чытаў аднапалчанам свае творы на грузінскай мове. Ніхто са слухачоў яе не ведаў, але ўсе разумелі хваляваўшыя аўтара пачуцці — такія яны былі выпакутаваныя — пра Радзіму, каханне, сяброўства.**

У 1952 годзе рэшткі паэта перанеслі ў брацкую магілу ў вёсцы Саннікі Бешанковіцкага раёна, дзе вечны спакой набыло каля 100 савецкіх воінаў і партызан, трое з якіх — героі Савецкага Саюза.

Ішлі гады. У Грузіі ні родныя, ні сябры не ведалі ні пра лёс паэта, ні пра яго магілу. 13 ліпеня 1963 года родныя Мірзы Гелавані атрымалі з Беларусі доўгачаканую навіну. З вёскі Ржаўка Бешанковіцкага раёна Віцебскай вобласці прыйшоў ліст на імя маці загінуўшага воіна: «Паважаная Ева Іосіфаўна! Гэты ліст шлюць Вам піянеры Ржаўскай сярэдняй школы. На нашай тэрыторыі, у сяле Саннікі, маецца ваенны могільнік, на якім пахаваны Ваш сын, Мірза Гелавані. Наша школа шэфствуе над яго магілай. 23 лютага і 9 мая штогод мы прыносім на яго магілу букеты кветак і саджаем дрэвы на могільніку. Нам вельмі хочацца, дарагая Ева Іосіфаўна, падрабязней даведацца аб Вашым сыне. Ад усяго сэрца просім адказаць на наш ліст. Калі ў Вас маюцца фотаздымкі сына і рэчы, то калі ласка, якнебудзь перадайце нам».

Еву Іосіфаўну гэты ліст не застаў жывой. У ліпені гэтага ж года ў Беларусь вылецелі сястра і брат Мірзы — Русудан і Таймураз, а таксама ўдзельнік вайны і блізкі родзіч Трыстан Хуцышвілі.

На сустрэчу з грузінамі прыехалі ўдзельнікі Вялікай Айчыннай вайны, былыя партызаны, жыхары бліжэйшых сёлаў, вучні і педагогі Ржаўскай школы. Яна аказалася на рэдкасць хвалюючай. Русудан Гедэонаўна прачытала вершы брата. Тады ж было выказана меркаванне калектыву школы прасіць Прэзідыум Вярхоўнага Савета БССР прысвоіць школе імя Мірзы Гелавані.

Гэтая паездка і публікацыі пра яе ўскалыхнулі і Грузію, і Беларусь. У рэспубліках выйшлі зборнікі вершаў паэта-воіна. Праз два гады ў Грузіі выйшаў мастацка-дакументальны фільм «Мірза Гелавані». Галоўную ролю сыграў вядомы грузінскі журналіст Вілен Мардалеішвілі.

19 ліпеня 1964 года на магіле героя, дзе пахаваны паэт, да дваццатай гадавіны яго гібелі сабраліся жыхары Бешанковіцкага раёна, піянеры, прадстаўнікі беларускай і грузінскай прэсы, радыё і тэлебачання, прыехаўшыя з Грузіі госці.

З таго часу магілу Мірзы Гелавані штогод наведваюць суайчыннікі.

У Грузіі папулярныя песні, напісаныя на вершы Гелавані, яго творчасць вывучаюць у школах, у гонар героя названы вуліцы, актыўна працуе фонд М. Гелавані.

Ён загінуў, калі яму не было і трыццаці, але паспеў пакінуць вялікую літаратурную спадчыну. Ваенная лірыка М. Гелавані — гэта 37 вершаў, прасякнутых незвычайна вострым душэўным болем і вялізнейшай, светлай верай у перамогу.

У адным сваім вершы Мірза Гелавані пісаў: «Нішто нас не адмяжуе ад смерці, калі смерць не здолеем адолець!» Ён адолеў і смерць, і час.

**Таццяна ЛЫЧАГІНА**



# Рэваз Мішвеладзэ

# МАКВАЛА

Гудамакары застаўся ззаду, і я раптам адчуў добры голад, але, як на тое ліха, ні рэстарана, ні нават якой карчомкі нідзе не было — нібы зямля іх паглынула.

Нарэшце, калі знікла нават надзея натрапіць хоць на якую гандлёвую палатку, ля селішча Самеба я ўбачыў дарожны знак з выявай нажа і відэльца. Сэрца маё затахкала з радасці.

«Не адпускай» — заклікала шыльда, што была прымацавана ўздоўж адмысловай рэстаранннай лесвіцы. Някепскую назву прыдумалі, нічога не скажаш. Я спыніў машыну, накінуў на плечы футра і паспяшаўся да рэстарана. Але як толькі я адчыніў дзверы, настрой у мяне адразу ж сапсаваўся. У зале, прыгожа аздобленай малюнкамі Кобы Вашадзэ, не было ніводнай душы. Я знайшоў буфетчыка і бесцырымонна запытаў:

— Што ў вас ёсць?

— Нельга сказаць, каб мы былі ў поўным узбраенні, але, калі спатрэбіцца, усе вырушым на бітву, — не задумваючыся, бойка адказаў хударлявы вусаты буфетчык, з цяжкасцю стрымліваючы ўсмешку.

Мне спадабаўся яго жарт, але ці час цяпер гаварыць алегорыямі!

— Я пра ежу пытаю.

— Ежа ў нас ёсць, батоно, а чым жа мы тут яшчэ займаемся, — і ён працягнуў руку ў бок вузкай арачнай залы, ля якой тоўпіліся афіцыянты.

— То й добра, дзе мне сесці?

— Дзе пажадаеце, а я адразу ж абслужу. Дзеля вас, бадай што, і аленя ўпалюю, так стол накрыю!.. Не хапала яшчэ, каб Какоя Пественідзэ стаяў за прылаўкам і не ведаў, чым пачаставаць госця!

Ён умомант накроіў сыр, шчодра расклаў па талерках зяленіва і джанджолі, адкрыў халадзільнік, выцягнуў адтуль вялікія падносы з пхалі і баклажанамі ў арэхах. Рабіў ён усё хутка, рухі былі спрытныя і прыгожыя — я не мог адвесці ад яго вачэй. Добра, калі чалавек ведае сваю справу.

— Якім чынам вы, імерэцінец, апынуліся тут, у гарах? — спытаў я яго.

— Не здзіўляйцеся. Вунь, людзі за мяжу едуць, каб працаваць, а сюды падняцца не праблема. У Грузіі некалькі кіламетраў — не адлегласць.

— Ваша праўда.

— У мяне знаёмыя хлопцы ёсць, дык калі іх тут прыціснулі, яны ўсё кінулі, з'ехалі і ўладкаваліся буфетчыкамі ў іншых гарадах — туды ліст тры тыдні ідзе. Што будзеце піць?

— Кахецінскае, калі ёсць.

Ён пасміхнуўся.

— Я гэтаксама як і вы, акрамя кахецінскага, нічога не п'ю. Калі піць, дык толькі кахецінскае, а калі цябе запрасілі на дэгустацыю, дык вып'еш ты пару шклянак «малых» ці «вялікіх» — усё адно.

Я накіраваўся да століка.

Вокны рэстарана глядзелі ў двор, і ўдалечыні, ля яра, я ўбачыў дзве вялізныя скрыні для смецця і старую каля іх. У адной руцэ старая трымала кайстру, другой шнарыла ў скрыні, нешта выцягвала адтуль і хавала ў кайстры, што ўжо амаль напоўнілася.

— Што яна робіць?

— Гэй, Гвцісавар! — не адказваючы мне, гукнуў у адчыненыя дзверы буфетчык. — Зноў Маквала поркаецца ў смецці? Хіба ж вы людзі? Нічога вам нельга даручыць! Няславіце мяне толькі ды яшчэ апетыт у гасцей псуеце!

Я азірнуўся. Ля дзвярэй стаяў хлопец у белым фартуху і весела пасміхаўся — твар так і ззяў рабаціннем.

— Яна толькі што пайшла адгэтуль. Дзве талеркі харчо ўпісала і кампот у дадатак!

— Чаго ж ёй яшчэ трэба, нягоднай, што яна там у смецці шукае?!

— Ты што, Маквалу не ведаеш? Я зараз!

Хлопец знік, а Како Пественідзэ павярнуўся да мяне.

— Калі чалавек пачынае жабраваць — дрэнныя справы, яго ўжо не адвучыш. Як толькі я пераехаў сюды, адразу гэту старую прыкмеціў. Нічога такога ў нас, у Імерэці, быць не можа, клянуся дзецьмі. Што я бачу, падумаў тады, чалавек у пошуках ежы корпаецца ў смецці?! Валасы сталі дыбарам у мяне. Пачаў распытваць пра старую, мне сказалі: адзінокая яна, жыве высока над вёскай, Маквалай завуць, нікога ў яе няма ва ўсім свеце, дык вось і жабруе. Сёння ніхто не памірае ад голаду, на маю думку. Праўду кажучы, сварыўся я на тутэйшых: не сорамна, кажу, жанчына ў галечы жыве, а вам хоць бы што. Надалей, як убачыце Маквалу, адразу ж клічце яе сюды, накарміце, напаіце ды адпусціце з богам. І каб я гэтага больш не бачыў, што чалавек у смецці корпаецца. І праўда, як убачаць нашы супрацоўнікі Маквалу, дык адразу ж завуць яе ў рэстаран. Калі аднаго-двух не зможам накарміць бясплатна, дык што ж мы за фірма! Урэшце, яе і клікаць не трэба, сама штодзень прыходзіць. Але як яе ні кармі, засуне сваю торбу пад паху і абавязкова абшнарыць усе сметніцы. Ніяк не кіне гэту праклятую звычку. Вы ж самі чулі, што хлопец сказаў: яна толькі што выйшла адсюль.

Я ўбачыў праз вакно, як Гвцісавар падбег да Маквалы, сілком адцягнуў яе ад сметніцы і павёў да брамы.

Настрой у мяне сапсаваўся. Задрамаць у машыне, як я хацеў, не атрымалася — сну не было. Уключыў магнітафон з надзеяй, што музыка прыцішыць трывогу ў маім сэрцы — ды дзе там!

Тады я выйшаў з машыны і пачаў падымацца на гару. Аднак неўзабаве праходка надакучыла, я павярнуў назад і зноў апынуўся ля рэстарана. Думкі пра няшчасную старую не пакідалі мяне. Я зразумеў, што пакуль не ўведаю пра яе ўсё, не паеду адгэтуль.

Лепш адзін раз убачыць, чым сто разоў пачуць, як кажуць. І я вырашыў наведаць Маквалу. Буфетчык спачатку з падазрэннем паглядзеў на мяне, а тады паклікаў Гвцісавара.

— Гэта недалёка. Ля крыніцы павярніце направа. А як дойдзеце да месца сходу, там старыя будуць сядзець. Адтуль ужо і кіламетра не будзе. Дарога добрая. Адсюль да дома Маквалы не больш як тры кіламетры.

Я спусціўся па лесвіцы і ўвесь час адчуваў на сабе пільныя позіркі Како Пественідзэ і Гвцісавара.

Мне давялося пераадолець даволі вялікую адлегласць, пакуль я дайшоў да дома Маквалы. Ён стаяў над ярам, далёка ад селішча, хоць у горскіх вёсачках дамы шчыльна туляцца адзін да аднаго. Цікава, кім жа быў той продак гэтай старой, які рызыкнуў адмежавацца ад свайго племя і пасяліцца асобна. Я кажу «продак», таму што дом быў надта ж стары, складзены са сланцу, каменная агароджа не мела варотцаў. Я паклікаў гаспадыню.

Раптам перада мною з'явіліся чатыры сабакі. Яны сталі на пэўный адлегласці і неахвотна пачалі брахаць: мне падалося, што перадусім звяры хацелі прадэманстраваць адданасць сваёй гаспадыні, а не напалохаць мяне. Сабакі глядзелі на мяне, пасля павярочваліся ў бок дома і брахалі ўсё гэтак жа раўнадушна, без усякага імпэту. Я паклікаў гаспадыню тры ці чатыры разы, але ніхто не адгукнуўся. Сабакі — звычайныя дварнякі — так і не змаглі прымусіць мяне адмовіцца ад намеру трапіць на сядзібу, прыціснулі вушы, яшчэ раз агледзелі меня напаследак і, відаць, вырашылі, што я не падобны да злога духа, а таму трушком пабеглі пад павець.

Я пастаяў яшчэ некаторы час і хацеў ужо пайсці, але цікаўнасць узяла верх, і я зайшоў у двор. На старых пракураных дзвярах вісела падкова. Знутры не далятала ні гуку. Я тузануў дзверы — і яны з рыпеннем адчыніліся. Перад маімі вачыма паўстала дзіўная карціна: старасвецкая грузінская зала, куды святло трапляла праз адтуліну ў столі, была поўная кошак і сабак — каццянятак, шчанюкоў, дарослых сук, плямістых кошак і катоў з рысінымі вачыма. У такой колькасці я іх не бачыў нават на выстаўках. Пасярэдзіне залы на бервяне сядзела старая, шаптала штосьці ласкава-няўцямнае і карміла звяроў аб'едкамі з торбы. Вось для чаго яна корпалася ў сметніцы!

Я кашлянуў колькі разоў. Усе, акрамя гаспадыні, звярнулі на мяне ўвагу. Беглыя позіркі, кінутыя ў мой бок, гаварылі самі за сябе: мы тут важнай справай займаемся, не перашкаджай, калі ты прыстойны чалавек.

«Ёсць тут хто?» — выгукнуў я з усяе сілы. Старая заўважыла, што яе падапечныя наструнілiся і нарэшце азірнулася. Зморшчаны твар, згаслыя вочы — а яны ж старэюць апошнімі. З-пад хусткі тырчалі пажаўцелыя ад гразі шчаціністыя валасы. Яна ўстала, пасунула да мяне пацурбалак, і я зразумеў, што час сагнуў Маквалу так, што ёй ужо не выпрастацца. Не адказваючы на маё прывітанне, яна адагнала сваіх сабак, выйшла на кухню і неўзабаве вярнулася, выціраючы рукі брыдкай анучай. Старая не зводзіла з мяне вачэй.

Я сказаў яшчэ нешта і канчаткова пераканаўся, што Маквала безнадзейна глухая. Тады выцягнуў нататнік і напісаў: «Навошта вам столькі катоў ды сабак?» Пасля выдраў паперку, працягнуў Маквале, але яна і не зірнула на яе, толькі сказала:

— Чытаць не ўмею.

Гэта жанчына так бы і засталася для мяне загадкай, калі б яна не загаварыла сама:

— Што цябе здзівіла, сынок? Мая старасць ці мае каты з сабакамі? Калі б іх не было, мне хоць зараз у дол класціся. Ды без мужчыны што гара без травы. Яны мой клопат. Узімку сagravaюць мяне, а ўлетку дапамагаюць бавіць бясконцыя дні. Разумныя і паслухмяныя, як птушаняты. Дзе ты яшчэ бачыў, каб звяры так сябравалі? Яны не крыўдзяць адно аднаго. Я іх узгадавала, таму і не крыўдзяць. Усё ад таго, як узгадуеш, залежыць. Ты не думай, Маквала не прыдуркаватая. Відаць, нетутэйшы ты, таму хай не здзіўляе цябе тое, што я раскажу. На ўсё воля Боская. Гэтыя вось рукі семярых выгадавалі, але ніводнага мне ў жывых не пакінулі ні чалавек, ні Бог, ні Бог, ні чалавек, хай будзе благаслаўлёнай іхняя справядлівасць. Муж у тую вайну загінуў. Пайшоў — і як у ваду кануў. Ні слыху ні дыху! Семдзесят гадоў мінула. Каб не куля, сваёй смерцю памёр бы ўжо. Трох сыноў у гэту вайну страціла, чацвёрты ля Гудамакары разам з канём са скалы сарваўся, а жонка яго праз тыдзень ад родаў памерла. Пятага разам з усёй сям'ёю тыф забіў, шосты — ён праваднікам альпіністаў быў — сустрэў сваю смерць на Гергеці. Трыццаць гадоў ужо прайшло, але так і не адшукалі яго. А паследак — гора мне — на вяселлі сябра гуляў і загінуў ні за што ні пра што. З таго часу дваццаць вёснаў мінула, чулі, можа, у перастрэлцы чалавека з пісталета забілі. Жартам забілі, так і пісалі ў газеце. Але мне, што славілі забойцу, што не славілі, — усё адно сына не вернеш.

Так ужо павялося, сынок, здаўна: Бог на чалавека палюе, тыф на чалавека палюе, ліха на чалавека палюе — усе ворагі жыцця. Вось я і засталася адна. Аднойчы падумала раптам: колькі на свеце няшчасных сірот, вазьму аднаго небараку, выгадую. Але не адважылася, спужалася. Дамавіны, што павыносіла я з гэтага дома, зусім загубілі мяне. З гэтымі вось сабакамі ды кошкамі я і адводжу душу. Іх Бог беражэ. Ні тыф не забярэ, ні ўсобіца. У паходы ды на сходы не пазавуць. Яны надзейныя. Абрыдла мне са смерцю гуляць, на памерлых глядзець. Людзі адыходзяць. Таму што народжаны для смерці, для гора народжаны, для слёз. Не думай, сынок, Маквала пры сваім розуме. Праўду кажа. Табе лёгка і зганіць мяне, і ў хлусні абвінаваціць. Хай той, хто перажыў як я, скажа пра мяне. Ён ведае, што такое смерць».

Больш нічога яна не сказала. І што яшчэ можна было дадаць да гэтага? Нейкі час старая глядзела на мяне, пасля павярнулася спінай і патэпала на сярэдзіну залы. Узяла ў рукі кайстру, гукнула сваіх падапечных.

…Я спускаюся да Пасанауры. Слёзы падступаюць да горла, галава расколваецца ад болю. А ўвушшу ўсё яшчэ гучыць голас Маквалы. І чамусьці перад вачыма паўстае адно і тое ж надакучлівае відовішча: з суседняга з маім пад'езда выходзяць муж і жонка, што не маюць дзяцей. Муж падтрымлівае жонку пад локаць. На руках у яе белая, дагледжаная балонка — кучаравая, пушыстая. Ніякай сувязі паміж гэтай парай і лёсам Маквалы я не бачу, аднак варта мне намацаць хоць найменшы намёк на сутнасць трагедыі старой жанчыны, як адразу, нібыта па волі лёсу, думкі мае блытаюцца і зноў з'яўляецца неадчэпна-прывідная карціна: з пад'езда выходзяць муж і жонка з дагледжанай белай кучаравай балонкай на руках.

**Пераклад з грузінскай Ірыны Качатковай**

# Летні парад танцавальных цудаў

**Артысты з розных краін вытанчана і лёгка «лунаюць» над сцэнай у эфектных касцюмах, музыка і рухі гіпнатызуюць, пагружаючы ў атмасферу розных эпох, неверагодных падзей і моцных пачуццяў — усё гэта чакала наведвальнікаў новага творчага праекта «Балетнае лета ў Вялікім». Прэс-канферэнцыя, прысвечаная харэаграфічнаму форуму, адбылася 4 ліпеня ў Нацыянальным акадэмічным Вялікім тэатры оперы і балета Рэспублікі Беларусь.**

«Фестываль унікальны тым, што спалучае класічную і сучасную харэаграфію, мініяцюры і цэласныя пастаноўкі, мноства моў і самых розных відаў пластыкі», — адзначыў мастацкі кіраўнік балета Вялікага тэатра Беларусі Юрый Траян, выказаўшы надзею, што форум стане добрай традыцыяй.

Генеральны дырэктар Вялікага тэатра Беларусі Уладзімір Грыдзюшка падкрэсліў: калектыў беларускага балета, які адрозніваецца высокім прафесіяналізмам, цалкам гатовы для правядзення такога маштабнага фестывалю. Многія прадстаўнікі беларускай харэаграфічнай школы выступаюць на буйных сусветных балетных сцэнах, атрымліваюць перамогі на прэстыжных міжнародных конкурсах, з гонарам прадстаўляючы сваю краіну.

Праграма «Балетнага лета ў Вялікім», якое расцягнулася на 10 дзён, уключала і ўжо даволі папулярныя і нечаканыя, авангардныя пастаноўкі з удзелам зорак сусветнага балета, артыстаў заходнееўрапейскай школы, а таксама беларускіх салістаў.

Фестываль адкрыўся 29 чэрвеня прэм’ерай мінулага сезона, нацыянальным балетам «Вітаўт», створаным паводле п’есы Аляксея Дударава на музыку Вячаслава Кузняцова. Вядучыя партыі выканалі заслужаны артыст Беларусі Антон Краўчанка і яркая прадстаўніца маладога пакалення балерын Людміла Хітрова.

На другі дзень фестывалю, 30 чэрвеня, гледачы змаглі ўбачыць балет «Лебядзінае возера» Пятра Чайкоўскага. Партыі Адэты-Адыліі і Зігфрыда бліскуча ўвасобілі салістка Вялікага тэатра Расіі, майстар вытанчаных і віртуозных рухаў Крысціна Крэтава і прэм’ер Марыінскага тэатра, які выступаў на сусветных сцэнах, прадстаўнік беларускай харэаграфічнай школы Ігар Колб.



*Фота Міхаіла Несцерава*

*Сцэна з балета «Дон Кіхот».*

Трэці дзень, 2 ліпеня, адзначыўся балетам «Дон Кіхот» на музыку Людвіга Мінкуса, дзе ў галоўных партыях былі задзейнічаны не менш каларытныя танцоры, салісты Вялікага тэатра Расіі — уладальніца рэдкай пластыкі, харызматычнага тэмпераменту і яркай знешнасці Чынара Алізадэ, якая выканала партыю Кітры, і адзін з самых таленавітых маладых артыстаў Міхаіл Лабухін, які выступіў у ролі Базіля.

Падчас «Балетнага лета» 4 і 5 ліпеня публіка змагла наведаць спектаклі, якія прайшлі ў межах тэматычных вечароў, прысвечаных творчасці двух вялікіх харэографаў свету. Знаўцам вытанчанай пластыкі, элегантнасці і гармоніі былі прапанаваны пастаноўкі Джорджа Баланчына, у ліку якіх — «Канчэрта Барока» на музыку Іагана Себасцьяна Баха, камерная, таямнічая і нават інтымная па характары «Мацарціяна» і даволі імклівая «Па-дэ-дэ» на музыку Пятра Чайкоўскага.

Вечар харэаграфіі Іржы Кіліяна вызначыўся напачатку рытмічным, насычаным барабаннымі гукамі і амаль містычнай рухомасцю, спектаклем «Паўшыя анёлы» ў выкананні трупы Тбіліскага дзяржаўнага тэатра оперы і балета імя З. Паліяшвілі. Беларускія артысты перанялі эстафету і ўразілі гледачоў балетам «Шэсць танцаў». У пастаноўцы Іржы Кіліян смела іранізуе са штампаў класічнага танца, а таксама над героямі свайго сцэнічнага дзеяння — прадстаўнікамі галантнага веку, іх напудранымі парыкамі і прыхільнасцю да інтрыг. Спектакль быў напісаны на музыку Вольфганга Амадэя Моцарта разам з іншым балетам Іржы Кіліяна пад назвай «Маленькая смерць», які таксама пашанцавала ўбачыць беларусам.

Галоўная асаблівасць і, мабыць, самая захапляльная падзея «Балетнага лета ў Вялікім», — гастролі Тбіліскага тэатра оперы і балета імя З. Паліяшвілі з удзелам яго мастацкага кіраўніка, выбітнай балерыны сучаснасці Ніны Ананіяшвілі. Той, хто ўвечары 7 ліпеня прыйшоў у Вялікі тэатр Беларусі, атрымаў шчырую асалоду ад творчасці грузінскай балетнай трупы. Артысты выканалі спектаклі «Таямнічы сад» на музыку Себасцьяна Плано і Алафура Арналдса, «Сагалабэлі» па матывах грузінскіх народных спеваў, «Маргарыта і Арман», напоўнены мелодыямі Ферэнца Ліста.

Н. Ананіяшвілі распавяла пра плённае супрацоўніцтва тэатраў балета Беларусі і Грузіі, пра сваю працу ў якасці пастаноўшчыка спектакля «Лаўрэнсія», прэм’ера якога запланавана ў Мінску на 1-2 лістапада 2014 года.

Адной з самых складаных пастановак у межах «Балетнага лета ў Вялікім», на яе думку, стаў спектакль «Канчэрта Барока», таму што «ўвесь кардэбалет танчыў у такой жа нагрузцы, як і вядучыя танцоры, з матэматычнай дакладнасцю рухаў, практычна не спыняючыся».

«Балетнае лета ў Вялікім», а разам з ім і 81-ы тэатральны сезон, завяршыліся 9 ліпеня грандыёзным гала-канцэртам, які аб’яднаў эфектную харэаграфію і найноўшыя відэа- і аўдыётэхналогіі. Рэжысёр-пастаноўшчык мерапрыемства Вольга Костэль паведаміла, што замест традыцыйнага дыялогу вядучых падчас музычнага вечара прагучаў біяграфічны аповед ад саміх артыстаў. На адной сцэне сабраліся выдатныя танцоўшчыкі з розных гарадоў свету, у тым ліку з Мінска, Тбілісі, Санкт-Пецярбурга, Вены, Варшавы, Гамбурга і Берліна.

**Марыя ВОЙЦІК,**
**фота з архіва**
**Вялікага тэатра Беларусі**

# Закаханы ў жыццё



*«Квітнеючыя яблыні». Палатно, алей. 1996 г.*

Персанальная выстаўка айчыннага мастака Ігара Уласава з арыгінальнай назвай «Каханне да жыцця» адкрылася ў сталічным Палацы мастацтва. Палотны, прадстаўленыя ў экспазіцыі, адлюстроўваюць цікавасць аўтара да рэалістычнага пачатку ў жывапісе.

Ігар Уласаў нарадзіўся 10 лютага 1944 г. на станцыі Абазерская Архангельскай вобласці (Расія). Малым застаўся без бацькоў, выхоўваўся ў дзіцячых дамах Расіі і Беларусі. Рана праявіў мастацкія здольнасці і ў 14 гадоў паступіў у Мінскае мастацкае вучылішча. У 1975 г. скончыў Беларускі тэатральна-мастацкі інстытут (факультэт жывапісу). Працаваў на мастацкім камбінаце, пасля 26 гадоў выкладаў малюнак, жывапіс, кампазіцыю ў Мінскім мастацкім вучылішчы імя А. К. Глебава. Член Беларускага саюза мастакоў, удзельнік шматлікіх міжнародных і рэспубліканскіх мастацкіх выставак.

Сёлета Ігар Уладзіміравіч адсвяткаваў 70-годдзе. Але, нягледзячы на багаты жыццёвы досвед, ён, па ўласным прызнанні, пастаянна вучыцца на класічных узорах сусветнага выяўленчага мастацтва, удасканальваючы эстэтычны густ і пашыраючы светапогляд.

Падчас адкрыцця выстаўкі старшыня Беларускага саюза мастакоў Рыгор Сітніца заўважыў, што яна цалкам апраўдвае сваю назву: творы І. Уласава, прасякнутыя пазітыўнай энергетыкай, з’яўляюцца сапраўдным увасабленнем жыццёвай гармоніі. Ён працуе кранальна, шчыра, далікатна.

Жывапісец Святаслаў Федарэнка падкрэсліў: для кожнага мастака персанальная выстаўка — не толькі свята, але і свайго роду творчая справаздача перад гледачом. У палотнах юбіляра — цікавыя кампазіцыйныя і каларыстычныя знаходкі.

Ігар Уладзіміравіч вядомы не толькі як жывапісец, але і як педагог. За дзесяцігоддзі выкладчыцкай дзейнасці ён здолеў перадаць моцны зарад творчай энергіі шматлікім вучням. Адзін з іх, сябар БСМ Уладзімір Клімушка, падчас імпрэзы выказаў падзяку майстру.

Паводле кіраўніка студыі ваенных мастакоў, заслужанага дзеяча мастацтваў Мікалая Апіёка, у палотнах І. Уласава прадумана кожная дэталь. Тут няма ніводнага выпадковага мазка.

Юбілейны вернісаж Ігара Уласава можна наведаць да 13 ліпеня.

**Яна ЯВІЧ**

**Выходзіць з 1932 года**
**У 1982 годзе газета ўзнагароджана ордэнам Дружбы народаў**
**Заснавальнікі: Міністэрства інфармацыі Рэспублікі Беларусь, ГА «Саюз пісьменнікаў Беларусі», РВУ «Выдавецкі дом «Звязда»**

**Галоўны рэдактар Таццяна Мікалаеўна СІВЕЦ**



**Юрыдычны адрас:**
220013, Мінск,
вул. Б. Хмяльніцкага, 10-а
**Адрас для карэспандэнцыі:**
220034, Мінск, вул. Захарава, 19
**Тэлефоны:**
галоўны рэдактар — 284-66-73
намеснік галоўнага рэдактара — 284-66-73
адказны сакратар — 284-97-09
аддзел крытыкі і бібліяграфіі — 284-66-71
аддзел прозы і паэзіі — 284-44-04
аддзел мастацтва — 284-82-04
аддзел «Кніжны свет» — 284-66-71
бухгалтэрыя — 287-18-14

Тэл./факс — 284-66-73
E-mail: lim_new@mail.ru
Адрас у Інтэрнэце: www.lim.by

Пры перадруку просьба спасылацца на «ЛіМ». Рукапісы рэдакцыя не вяртае і не рэцэнзуе. Аўтары допісаў у рэдакцыю паведамляюць сваё прозвішча, поўнасцю імя і імя па бацьку, пашпартныя звесткі, асноўнае месца працы, зваротны адрас.

Пазіцыя рэдакцыі можа не супадаць з меркаваннямі і думкамі аўтараў публікацый.

Набор і вёрстка камп’ютарнага цэнтра РВУ «Выдавецкі дом «Звязда».

Выходзіць раз на тыдзень па пятніцах.

**Выдавец:**
Рэдакцыйна-выдавецкая ўстанова «Выдавецкі дом «Звязда».

**Друкарня Рэспубліканскага ўнітарнага прадпрыемства**
«Выдавецтва «Беларускі Дом друку»
ЛП № 02330/106 ад 30.04.2004
г. Мінск, пр. Незалежнасці, 79.

Індэкс 220013

Кошт у розніцу — 3600 рублёў

Наклад — 2317.

Умоўна друк. арк. 3,72

Нумар падпісаны ў друк
10.07.2014 у 11.00

Газета зарэгістравана ў Міністэрстве інфармацыі Рэспублікі Беларусь
Рэгістрацыйнае пасведчанне
№ 7 ад 22.07.2009 г.

Заказ — 2739.

Д 1 2 3 4 5 6 7 8 9 10 11 12
М 1 2 3 4 5 6 7 8 9 10 11 12

ISSN 0024-4686